


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 09 (3120) Год LXI Беласток, 28 лютага 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Аб планах урада, датычных змяненняў у сродках масавай інфармацыі і ў сферы адукацыі ў адносінах да нацыянальных і этнічных меншасцей, а таксама крытэрыяў размеркавання будучых субсідый вяліся дэбаты падчас апошняга пасяджэння Сумеснай камісіі ўрада і нацыянальных і этнічных меншасцей (СКУіНіМ). Насуперак ранейшым заявам, урадавы бок не прадставіў прыярытэтаў дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да меншасцей і меншасці не паспелі з падрыхтоўкай балансу адкрыцця, значыць, не прадставілі сваіх спадзяванняў ад новага ўрада. Хваляванні членаў камісіі выклікала заява Яна Сычэўскага, старшыні Беларускага грамадска-культурнага таварыства, які спаслаўся на I Гайнаўскі марш салдатаў выклятых, арганізаваны крайне нацыяналістычнымі групоўкамі.



■ Злева: Юзэф Ружаньскі, Себастыян Хвалэк, Рафал Бартэк і Дабеслаў Жэмянеўскі

польскага пейзажу, гледзячы на статыстыку, і нават прымаючы больш абгрунтаваныя дадзеныя, на якія спасылаюцца меншасці, гэта значыць 1,5-2 працэнты польскага грамадства. Мы гэтага не пачулі, а толькі прагучалі бюракратычныя і тэхнічныя інфармацыі. Такім чынам, мы будзем базавацца на нашым пачатковым балансе.

**НЕБЯСПЕЧНЫ НАПРАМАК**

У пункце, у якім павінны былі быць прадстаўлены прыярытэты дзяржавы ў адносінах да меншасцей, у дыскусію ўключыўся старшыня БГКТ Ян Сычэўскі, спасылаючыся на 70 гадавіну пацыфікацыі беларускіх праваслаўных вёсак на Беласточчыне атрадам Рамуальда Райса «Бурага» і прадстаўляння вінаватых у бандытызме як нацыянальных герояў на маючымся адбыцца I Гайнаўскім маршы салдатаў выклятых, арганізаваным Нацыянальна-радыкальным лагерам:

— Гэтая справа мае сур'ёзныя канатацыі, калі гаворка ідзе пра бяспеку і роўнае трактаванне нацыянальных меншасцей у нашай краіне (...). Калі такія падзеі [марш ОНР у Гайнаўцы — М. Х.] будуць разглядацца як маргінальныя, сітуацыя будзе развівацца ў напрамку агульнай непавагі да правоў меншасцей, у напрамку парушэння маральных законаў і маральнага камфорту меншасці ў якасці ніжэйшай катэгорыі. Кур'ёзнай справай з'яўляецца той факт, што сям'я «Бурага» атрымала кампенсацыю, у той час як сем'і ахвяр яго злачынстваў не могуць дачакацца кампенсацый і ніяк немагчыма было выпрасіць згоды, каб пабудаваць помнік нявінным ахвярам.

Намеснік міністра Хвалэк запэўніваў у гэтым кантэксце:

— У рамках дзеянняў МУСіА кожнае гэтага тыпу незаконнае дзеянне кантралюецца і ёсць рэакцыя паліцыі, праваахоўных органаў. Што тычыцца кампенсацыі, прызнае іх незалежны суд. Немагчыма чакаць, што Міністэрства ўнутраных спраў у гэтым выпадку запатрабуе змяненняў рашэння суда.

Голас тут узяў упаўнаважаны ўрада па справах адкрытага грамадства і роўнага трактавання Войцех Качмарчык:

— Жаль, што парушаюцца правы меншасцей. Дзяржава з-за гэтага пакутуе таксама. У гэтым кантэксце пазіцыя прэзідэнта ад адмовы ўзяць патранаж над маршам у Гайнаўцы па маральных сумненнях з'яўляецца адназначным і пакazвае становішча дзяржавы. Але мы жывем у дэмакратычнай краіне і ўсе арганізацыі ў рамках закона могуць выяўляць сваю пазіцыю, таксама ў арганізаваным парадку. Тут я бачу магчымасці для адукацыйных дзеянняў. Гэтыя абшары, якія з'яўляюцца прадметам нашай агульнай і часта балючай гісторыі, павінны дачакацца, таксама ў мясцовых супольнасцях, пазітыўных дзеянняў адукацыйнага характару. Каб моладзь не толькі ў школах, але і праз самакіраванне, публічныя органы магла быць належным чынам праінфармавана пра тое, як гісторыя на самой справе выглядала, і каб такога роду падзеі ў будучыні не мелі месца.

# Нявыдзейсненае чаканне

Як было вырашана на папярэднім пасяджэнні Камісіі ў снежні мінулага года, адказны за меншасці ў Польшчы намеснік міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі Себастыян Хвалэк меў прадставіць (17 лютага) прыярытэты цяперашняга ўрада ў адносінах да меншасцей. Тым часам перадаў ён голас Дабеславу Жэмянеўскаму, начальніку аддзела нацыянальных і этнічных меншасцей дэпартамента веравызнанняў і нацыянальных і этнічных меншасцей, які пералічыў — як пазней акрэслілі прадстаўнікі меншасцей — толькі тэхнічныя змены, датычныя адносін ведамства і меншасных арганізацый. Гаварыў, між іншым, пра магчымасць разгляду заявак на субсідыі ў электроннай форме, забеспячэнні бесперабойнай работы рэгістра гмін, у якіх можа быць выкарыстана мова меншасці як дапаможная і могуць быць устаноўлены двухмоўныя назвы населеных пунктаў, і ўпарадкаванне працэдур адбору кандыдатаў у склад СКУіНіМ (правілы павінны быць распрацаваны яшчэ раз і павінны быць «празрыстымі і даступнымі»), а таксама аб тым, што МУСіА залежыць, каб упаўнаважаныя ваяводаў па меншасцях былі больш актыўнымі. Паводле яго заявы, мае наступіць абнаўленне запісаў у стратэгіях развіцця адукацыі меншасцей. МУСіА таксама мае падтрымліваць этнафілалогіі ва ўніверсітэтах.

**ЦІ НАСТУПІЦЬ ЗМЕНА?**

— Мы чулі пра тэхнічныя прынцыпы, а не пра прынцыпы дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да меншасцей. Ці будзе змена? — спрабаваў пытаца ў начальніка Жэмянеўскага прадстаўнік лэмкаў Стэфан Дудра.

Намеснік міністра Хвалэк:

— Мы чакаем прапаноў з вашага боку. Пакуль абмяркуем цяперашнюю сітуацыю, мы адкрытыя на прапановы і спадзяемся з вашага боку абвешчанага балансу. Затым выпрацуем змены, задавальняючыя, думаю, усіх.

Рафал Бартэк, сустаршыня камісіі, нямецкая меншасць:

— Такі баланс адкрыцця наш меншасны бок прыняў, але наша рабочая група па-ранейшаму працуе над некалькімі рэдакцыйнымі папраўкамі. Спадзяюся, што на працягу двух тыдняў атрымаеце [МУСіА — М. Х.] гэты дакумент.

Рыгор Купрыяновіч, старшыня Украінскага таварыства цікавіўся:

— Што нас чакае цяпер? У якой ступені можам зараз гаварыць аб працягу дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да меншасцей, і ў якой ступені могуць адбыцца ў гэтых адносінах змяненні, звязаныя з новай дзяржаўнай палітыкай? Мы здзіўлены, што выступленне начальніка тычылася толькі тэхнічных пытанняў, аб якіх на працягу многіх гадоў гаворым.

Намеснік міністра паўтарыў:

— Мы хацелі б мець сабраны ад вас матэрыял, датычны вашых чаканняў. Тады мы зможам звярнуцца да іх.

Людамір Малітоўрыс, прадстаўнік славацкай меншасці ў Камісіі спытаўся проста, ці будзе павелічэнне сродкаў, якія перадаюцца з бюджэту МУСіА на дзейнасць меншасцей.

Намеснік міністра Хвалэк

— Дзяржаўны бюджэт не гумовы. Мы чакаем ад вас зразумення: кожнае поле грамадскага жыцця ў Польшчы патрабуе значных сродкаў, паляпшэння сітуацыі. Гэта датычыць не толькі фінансавання нацыянальных і этнічных меншасцей.

**ПАДСТАВА: БАЛАНС АДКРЫЦЦЯ**

Таксама Славамір Іванюк, адзін з двух прадстаўнікоў беларускай меншасці (Беларускі саюз у Польшчы) у СКУіНіМ у кулуарах пасяджэння ў размове з «Ніваі» сказаў адносна выступлення начальніка Жэмянеўскага:

— Нельга гэта назваць прыярытэтамі дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да меншасцей, бо гэта было вылічэнне пытанняў, якія разглядаюцца міністэрствам на працягу дзесяці гадоў у сувязі з ажыццяўленнем палажэнняў Закона аб меншасцях. Не ўводзіць гэта ніякіх ведаў аб палітыцы, якая будзе ажыццяўляцца ўрадам.

Спасылаючыся на баланс адкрыцця, які дапрацоўвае меншасны бок, адкрыў нам:

— Адзін з напрамкаў тычыцца адукацыі: яе фінансавання і рэфармавання. Ніхто нам дасюль не жадаў сказаць, у якім кірунку будуць тут змены. Яшчэ адзін абшар гэта ўвогуле фінансаванне культуры, суб'ектаў меншасцей. Гэтыя сродкі, якія ў цяперашні час вылучаюцца з рэсурсаў МУС, з'яўляюцца мінімумам, кропельніцай, калі гаворка ідзе аб захаванні меншасцей у Польшчы. Мы прыйшлі да высновы, што гэты выдатак неабходна павялічыць з дзяржаўнага бюджэту. Тым больш, што на бюджэты самаўрадаў не можам спадзявацца канкрэтна, гэта яшчэ меншая кропельніца. Мы кранулі праблему культурных цэнтраў меншасцей, інакш устаноў, даючых шансы роўных магчымасцей развіцця з агульнапольскай культурай. Шмат заўваг таксама маем да функцыянавання самой Сумеснай камісіі, скажам, датычных непразрыстага адбору яе членаў, прадстаўляючых меншасці і недахопу юрыдычна-кансультатыўнай базы меншаснага боку, якую мае дзяржаўны бок. Звяртаем таксама ўвагу на несправядлівую долю меншаснай праблематыкі ў сродках масавай інфармацыі і кіраванне ў іх сродкаў на гэтую тэматыку няслушна (пра гэты матыў і пра адукацыю напішам праз тыдзень — М. Х.).

З іншага боку, Ян Сычэўскі (другі прадстаўнік беларускай меншасці ў Камісіі), выказаў меркаванне:

— Палітычныя змены ставяць перад меншасцямі сур'ёзнае пытанне: што далей? Новыя ўлады, якія прадстаўляюць ПіС, прасоўваюць тэндэнцыі, якія ідуць у бок адабрэння таго, што з'яўляецца польскім патрыятызмам і ліквідавання таго, што не спрыяе гэтым польскім патрыятычным ідэалам. Гэта супярэчнасці паміж каштоўнасцямі патрыятызму ў прыёме нацменшасцей і польскай дзяржавы кіраванай па-новаму.

Рафал Бартэк прызнаўся ў гутарцы з журналістамі:

— У выбарчай праграме, здаецца, любой буйнай партыі ў Польшчы не паяўляюцца элементы, датычныя палітыкі ў адносінах да нацыянальных і этнічных меншасцей. З нашага боку было спадзяванне, што будзе прадстаўлены нам дакумент, які будзе спасылацца на тое, як новае кіраўніцтва Польскай Рэчы Паспалітай, новы ўрад бачыць гэтую палітыку, тое месца для меншаснай супольнасці, якая з'яўляецца ўзбагачаючым элементам, ды напэўна не з'яўляецца адным з найважнейшых элементаў

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА





# Хамства і палітыка

Кожны дзень у побыце па некалькі разоў сутыкаемся з чалавечым хамствам. Сама простае — ты вітаешся ў пад'ездзе з чалавекам, а ён табе не адказвае. Нават калі вы ў адным доме жывяце і ты ведаеш, што нічога яму кепскага не зрабіў і не мог зрабіць нават тэарэтычна. Школьнікі не саступаюць месцаў у грамадскім транспарце састарэлым асобам. На прыпынку чарга на аўтобусную маршрутку, пад'язджае мікрааўтобус і тут з-за плячэй выскоквае пара маладых дзеўчын і, не звяртаючы ніякай увагі на раней прыйшоўшых, імкліва шмыгаюць у самаход. Вось у шматлюдным публічным месцы нехта пачынае гучна размаўляць праз мабільнік, прычым не проста адказвае на званок, а гаворыць доўга і на ўсю залу.

Адна з самых хамскіх катэгорый беларускага грамадства — гэта так званыя сабачнікі, ці па-іншаму гаспадары сабак. Мала таго, што многія з іх дазваляюць сабе выводзіць на вуліцу сваіх гадаванцаў без наморднікаў, дык часцяком яшчэ і без повадаў. Выводзіць вярзіла свайго агромністага сабаку на траву, якой і так няшмат паміж гарадскімі дамамі, на пляцоўку, дзе гуляюць дзеці, а дурная жывёліна ж сораму не мае — гадзіць, дзе папала. Гаспадар жа і не падумае прыбраць за сваім сабакам — хай паскудзіць. Гэта ж не Амерыка, ці Еўропа, дзе ўсе сабачнікі ходзяць услед за чатырохногімі сябрамі з пакецікамі. І вось што цікава, але абсалютна заканамерна — наша міліцыя, якая так актыўна вылоўлівае і штрафуе рознага кшталту парушальнікаў і зусім невінаватых, не звяртае ўвагі на „сабачыя" парушэнні заканадаўства ніякай увагі. Аніводнага разу не бачыў іх рэакцыі на гэта.

Хамства іншага роўню — гэта пыха, фанабэрыя і знявага з боку рознага кшталту дзяржаўных чыноўнікаў, службоўцаў, прадстаўнікоў разнастайных структур. Для іх — нахаміць „простаму" чалавеку — існасць і сутнасць прафесіі, альфа і амега пасады. У Беларусі сістэма ўжо дайшла да свайго апагею. Жывы прыклад — адмысловая экспертыза прыйшла да высновы, што міліцыянт, які лаяўся на грамадзяніна матам (а факт зафіксаваны!), нікога такім чынам не абражаў. З аднаго боку, для іх гэта сапраўды асноўная працоўная мова і псіхалогія тут зразумелая. З іншага — грамадзян, асабліва іншадумцаў, яны адразу валакуць у пастарунак, прыкладам за патрыятычнае „Жыве Беларусь!". Гэта абраза і для „правільных" грамадзян, і для міліцыі, і для выканкамаўцаў, і для суда. У нашай дзяржаве хамства звычайна перадаецца хваляй праз уладную вертыкаль — зверху ўніз. Толькі што гэты чыноўнік сядзеў, нібы нашкодзіўшы першакласнік, уціснуўшы галаву ў плечы, чырванеў і занатоўваў кожнае слова вярхоўнага Зеўса, які сыпаў маланкамі. А вось ужо выйшаў з вышэйшай нарады і крычыць на сваіх падначаленых. І так да самага нізу. Бывае і наадварот. Зусім нядаўна міністарка працы зняважліва выказалася ў дачыненні да спартоўцаў і трэнераў, міністр спорту публічна перабіў і адчытаў аднаго са спартовых дырэктараў, а ўжо днямі сам старшыня нацыянальнага алімпійскага камітэта, ён жа кіраўнік дзяржавы, адкрыта абразіў аднаго з самых заслужаных сівавалосых трэнераў краіны. Яны нават не ўсведамляюць свайго хамства, бо яно ўжо даўно для іх „норма жизни".

Ну і нарэшце — вышэйшая стадыя хамства — гэта хамства ў міжнароднай палітыцы. Гэты род хамства мае сутнасцю асаблівы цынізм і падвойныя стандарты. Вось неяк заявіла высокая еўрапейская чыноўніца — як добра ў нашай сінявокай Беларусі ёй было на нагляданай пасадзе — маўляў, за перавыпэнне хуткасці на дарогах, даішнікі не штрафавалі, а толькі ўсміхаліся і ветліва папярэджвалі. Але гэта дробязь. На мінулым тыдні ў Бруселі забаранілі пікет беларускіх эмігрантаў супраць адмены Еўрасаюзам санкцый у дачыненні да ўладнага рэжыму Беларусі. Вось яна — сталіца еўрапейскай дэмакратыі! Як яны хутка вучацца ў сваіх менскіх партнёраў! Узяць і не дазволіць звычайны пікет, які супярэчыць іхняй сённяшняй рэал-палітык і заганнаму бачанню праблемы. Гэтая рэал-палітык вышэй і прынцыпаў, і сумлення, і ўсёй дэмакратыі. Але кожны чалавек, нават высокі і ўладны, мусіць памятаць — кожнае хамства, няважна маленькае ці вялікае — нязменна вяртаецца і ўрэшце вернецца таму, хто яго здзейсніў.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Колеры прэзідэнта

Цяперашняга Прэзідэнта РП цяжка адназначна вызначыць. Не такі ён дрэнны прэзідэнт, ані нядрэнны. Ані асабліва чорны ён, ані асабліва белы. От, прэзідэнт на меру часу. І калі ён ані такі, ані які, дык які? Ну, буры. Іншая справа, што буры не заўсёды азначае ніякі, без асаблівасцей. Быў адзін «Буры» — «салдат выкляты». Фігура гэтак пазітыўная, як і адмоўная, і яшчэ прытым вельмі выразная. Але пра яго крыху ніжэй.

Усё ж такі нічым нехарактаралагічны колер прэзідэнта, як гэта ні парадаксальна, з'яўляецца яго моцнай каштоўнасцю, валёрам. У нашай рэальнасці хуткай палярызацыі ідэалогій і светапоглядаў, яго нявызначанасць можа мець вырашальнае значэнне падчас палітычных таргоў. Можа быць, але неабавязкова. Палярызацыйная тэндэнцыя, якая, дарэчы, узмацняецца не толькі ў Польшчы, паўтараецца ў гісторыі. Яна заўсёды прыводзіць да рэзкіх падзелаў і, такім чынам да магутных канфліктаў. Прычым палярызацыя супольнасці вымушае на адзінцы дэкларатыўнасць, якая адкуль існуе свет заўсёды звужала нестабільную, бо ўражлівую па сваёй натуры прастору грамадскай талерантнасці і ўзаемнай павагі. У гэтай новай сітуацыі мець сваё меркаванне аб чымсьці гэта мала. Трэба яшчэ заявіць, абвясціць усім і стаць за кімсьці ці чымсьці або насуперак чагосьці ці кагосьці. Ужо недастатковa проста быць. У новых рэаліях ты або «з намі» або «супраць нас».

На сайце Прэзідэнта РП ёсць закладка «Выклятыя салдаты» з інфармацыяй аб асобных мерапрыемствах па святкаванні Дня памяці салдат выклятых і формай заявы на Нацыянальны патранаж. Гэты патранаж — чытаем на сайце — з'яўляецца «выразам падзякі і прызнання прэзідэнта Польшчы для ўсіх тых, хто робіць унёсак у аднаўленне гістарычнай праўды і развівае памяць герояў другой канспірацыі». Заяву падалі таксама арганізатары Першага Гайнаўскага маршу памяці выклятых жаўнераў — Нацыянальна-радыкальны лагер, арганізацыя «Нацыянальная Гайнаўка» і Гістарычнае таварыства імя Дануты Седзікуўны «Інкі».

Адным з «герояў другой канспірацыі», значыць тых што з'яўляліся жаўнерамі АК і іншых ваенных арганізацый, якія пасля паражэння Трэцяга Рэйха не спынілі барацьбы з «савецкімі вызваліцелямі» быў Рамуальд Райс «Буры» — камуністычнай прапагандай выкляты, ПіСаўскай — прыгаданы ў патрыятычнай пераклічцы. Райс з'яўляецца персанажам найвышэй неадназначным. Салдат Арміі Краёвай, вядомы пераможнымі ваеннымі дзеяннямі супраць нацыстаў на Віленшчыне і Падляшшы, палымяны патрыёт заслужаны ў барацьбе за свабоду Польшчы, на канец пакрыўся ганьбай генацыду супраць цывільных асоб. Гэты факт пацверджаны дакументамі, якія знаходзяцца ў распараджэнні Інстытута нацыянальнай памяці. Яны паказваюць адназначна, што «Буры» ў 1946 годзе выдаў асабіста загад забойства шляхам расстрэлу або спалення 79 грамадзянскіх асоб з павета Бельск-Падляшскі. Паказанні сведкаў, змешчаныя ў актах справы, паражаюць жорсткасцю апісанага злачынства. Забіты былі дарослыя і дзеці, уключаючы немаўлят, жыхары Залешан, Заняў, Шпакоў і Канцавізны. З гэтых вёсак паходзілі таксама вазакі, якія былі вымушаны служыць падводамі салдатам атрада «Бурага». Яны былі расстраляны, калі сталі непатрэбнымі. І ні абставіны, ані пасіўнае стаўленне будучых ахвяр не вымушала прымяняць такія радыкальныя нечалавечыя дзеянні. Гэтую праяву бандытызму можна растлумачыць толькі нагрузкамі працяглай вайны і звязанай з ёю дэгуманізацыяй і, нарэшце, поўнай распустай партызан, якія называлі сябе салдатамі АК. Але як «растлумачыць», і гэта метадам таннага псіхалагізму, тое дзіўнаеператварэнне героя ў звычайнага ката.

З афіцыйнага плаката, паказанага на сайце арганізатараў Першага Гайнаўскага маршу памяці салдат выклятых выяўляецца ясны твар «Бурага». Салдата выклятага ці праклятага? Прэзідэнт РП адмовіўся ўзяць патранат над згаданым маршам.

Міраслаў ГРЫКА



## Вачыма еўрапейца

# Скандал у Індыі

Спектакль «Сонька» паводле рамана Ігната Карповіча, пастаўлены Драматычным тэатрам імя Аляксандра Вянгеркі ў рэжысуры дырэктаркі тэатра Агнешкі Карыткоўскай-Мазур выклікаў скандал у Індыі. Была спроба паддаць гэтае прадстаўленне цэнзуры, да чаго пераконвалі творцаў прадстаўлення таксама работнікі тамашняга Польскага інстытута. Словы абурэння выказаў міністр культуры штату Арыса, у сталіцы якога паказвалі спектакль, і частка тамашніх артадаксальных асяроддзяў. Кажуць, рэагаваў таксама нервова стаяўшы на чале польскай эканамічнай місіі, прабываючай у той жа час што і беластоцкі тэатр у Індыі, намеснік прэм'ер-міністра і міністр культуры Пётр Глінскі. Але па чарзе.

Беластоцкі драматычны тэатр гасцяваў у Індыі на васямнаццатым выпуску найбуйнейшага тамашняга тэатральнага фестывалю. Спектаклі прадстаўляла там 65 індыйскіх і 15 замежных тэатральных калектываў. Беластачане паказалі «Соньку» (з удзелам беларускіх акцёраў), адвошча — кажучы агульна — пра каханне паміж простай беларускай дзяўчынай і афіцэрам СС. Фестываль арганізаваны быў прэстыжнай Нацыянальнай школай драмы ў Нью-Дэлі. Запрошаныя спектаклі былі прадстаўлены не толькі ў сталіцы Індыі, але і ў сталіцы штата Арыса — горадзе Бхубанешвар. А гэта пасля спектакля газета «Індыян экспрэс», спасылаючыся на словы міністра культуры штата Ашокі Панды напісала: «Такія спектаклі супраць нашай культуры. І такія вульгарныя сцэны не будуць дапускацца».

Дайшло да зрывання плакатаў спектакля і разбурэнняў у сядзібе фестывалю.

Абурэнне выклікала сцэнка ў амаль дзевяць секунд, калі з Сонькі, ролю якой выконвае Кацярына Сергей, жорстка зрываюць адзенне.

Агнешка Карыткоўскя-Мазур, каментуючы гэтыя рэакцыі, тлумачыцца:

— Арганізатары выпусцілі афіцыйную заяву, у якой гаворыцца, што сцэна галізны адбылася выпадкова. Падчас афіцыйнай сустрэчы мы мусілі абяцаць, што ні адна са сцэн, парушаючая пачуцці гледачоў, не будзе паказана ў наступным прадстаўленні. Як мастакі, мы вырашылі не выкідваць сцэны галізны, якая абурыла аўдыторыю ў Бхубанешвар, а даць ёй карэкцыю без нанясення шкоды цэласнасці і пасылу спектаклю (як выглядала тая сцэна падчас спектакля распавёў адзін з акцёраў — М. Х.). У гэтай сцэне быў таксама патлумачаны сімвал свастыкі. Растлумачана была таксама важнасць гэтай сцэны, адбіваючы атаку адной з газет, якой журналіст сказаў, што «нацысты згвалтавалі жанчыну». Такое сцэны няма ў нашым спектаклі. Мы вырашылі, што важнасць апошняй сцэны з каровай у кантэксце індуісцкаага культурнага круга скажыць сэнс гэтай сцэны. Шануючы мясцовых гледачоў, мы адмовіліся ад звязвання і збіцця каровы.

Дадала:

— Спектакль быў заяўлены да ўдзелу ў фестывалі разам з 500 спектаклямі з усяго свету, у тым ліку з некалькімі іншымі польскімі спектаклямі. Запісаная версія «Сонькі» была ідэнтычная з прэм'ернай версіяй і як такая была прынята арганізатарамі, ацэнена 33 спецыялістамі і ў канчатковым выніку запрошана ў Індыю.

Да беластоцкіх творцаў спектакля пасля пратэстаў паплыло шмат цёплых слоў падзякі за спектакль і галасоў салідарнасці з боку індуісцкага мастацкага асяроддзя, і нават назвалі яго дасканалым. Ён быў прыняты з авацыяй.

— Мы ведаем пра тое, які культурны код абавязвае ў Індыі. Мы свядомы таго, што можа быць прымальным, а што не. Нашым намерам не было правакаваць або парушаць код. Нам паведамілі, што гэты фестываль рэгулюецца правіламі абмену іншымі пунктамі гледжання, — падкрэсліла пасля вяртання на прэс-канферэнцыі дырэктар Карыткоўская-Мазур.

Словы салідарнасці з беластоцкім калектывам, які паддадзены быў спробе цэнзуры, у адкрытым лісце выказалі прадстаўнікі польскай культуры і мастацтва. Яны пісалі м.інш.: «Нашы калегі з Беластока былі пазбаўлены падтрымкі ў гэтай барацьбе з боку польскіх улад, падвяргаліся прэсінгу з боку арганізатараў фестывалю, якія выбралі спектакль, не паведамляючы пра неабходнасць папярэдніх карэкціровак». На маю думку, у гэтай сітуацыі, якая адбылася, у першую чаргу не спраўдзіўся персанал Польскага інстытута, які павінен стаць у абарону беластоцкага тэатра — які на фестывалі прадстаўляў генеральна польскую культуру, прытым у выпадку «Сонькі» ўпісваную ў так акцэнтаваную цяпер гістарычную палітыку нашай краіны. Пры нагодзе скандалу, у такім выпадку, стаіць пытанне пра ролю, якую ў цэлым маюць выконваць Польскія інстытуты за мяжой.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

У Самаўрадавым прадшколлі № 1 у Гайнаўцы з верасня мінулага года ў дзвюх групах вядзецца навучанне беларускай мове падчас асноўных заняткаў у рамках праграмнай падставы навучання. Апякункі абедзвюх груп Міраслава Ніканчук і Ала Супрун ужо з 2003 года арганізавалі дзеткам дадатковыя заняткі, падчас якіх дзеткі знаёміліся з мясцовымі традыцыямі, беларускай мовай і культурай. На конкурсах і мерапрыемствах дашкольнікі выступалі з вершамі і песнямі на беларускай мове. Прыклад узялі яны з настаўніц Прадшколля № 14 у Беластоку і наладзілі цеснае супрацоўніцтва з Аб'яднаннем «АБ-БА». Міраслава Ніканчук і Ала Супрун зараз вучаць сваіх дзетак размаўляць на беларускай літаратурнай мове і на мясцовым дыялекце, вучаць дашкольнікаў нашым традыцыям і беларускай культуры. Дзеткі спяваюць беларускія песні, гавораць вершыкі і прымаўкі на сваёй мове, водзяць карагоды і танцуюць. Навучэнцы беларускай мовы ў гэтым школьным годзе прымалі ўдзел у экскурсіях, запрэзентаваліся



Дзеткі са сваімі настаўніцамі Міраславай Ніканчук (справа) і Алай Супрун

# Беларуская мова ў садку

ў Гайнаўскім белмузеі падчас «Мастацкіх сустрэч школьнікаў» і занялі другое месца ў аглядзе «Сустрэчы з праваслаўнай калядкай».

— Супрацу з Прадшколлем № 14 у Беластоку мы наладзілі, калі там яшчэ вучыліся дзеці Барбары Пякарскай і Юрыя Каліны. Раней мы рэалізавалі праекты з ухілам на навучанне традыцыям і беларускай культуры. Вялікую грамадскую працу выканалі настаўніцы Міраслава Ніканчук і Ала Супрун, якія многа часу праводзілі ў садку па-за сваімі асноўнымі гадзінамі працы і ладзілі экскурсіі. З прапановай арганізаваць у садку заняткі па беларускай мове выступілі бацькі. У групе з 25 дзетак, з якой займаецца Міраслава Ніканчук, усе бацькі падтрымалі прапанову арганізаваць навучанне беларускай мове. У другой групе, якой займаецца Ала Супрун, вучыцца беларускай мове запісалася больш за палову дзетак. На заняткі беларускай мовы прыходзяць таксама малодшыя дзеткі, якіх бацькі хочуць, каб іх малечы вучыліся па-беларуску. Наша педагагічная рада падтрымала просьбу бацькоў і звярнулася да бургамістра Гайнаўкі па дазвол на вучобу дзетак беларускай мове ў рамках праграмнай падставы навучання. Дазвол мы атрымалі. Музеем і асяродкам беларускай культуры ў Гайнаўцы была створана камісія, якая ацаніла, што нашы настаўніцы Міраслава Ніканчук і Ала Супрун ведаюць беларускую мову і могуць навучаць яе дзетак, — сказала дырэктар Прадшколля № 1 у Гайнаўцы Ірэна Гапунік. — На заняткі запрашаем гасцей, якія робяць заняткі больш разнароднымі і цікавымі. Нашы дзеткі выступаюць з беларускімі песнямі, калядкамі, дэкламуюць вершы. Будзем працягваць вучобу беларускай мове і ў наступных гадах.

Калі я прыходжу на заняткі дашкольнікаў, яны гуляюць. Пасля збіраюцца ў адным месцы і ахвотна размаўляюць аб занятках беларускай мовы.

— Нам вельмі падабаюцца танцы і гульні з прыгожай музыкай, — заявілі Лена Панасюк, Віктар Маркевіч, Зузя Мішчук, Адась Шумарскі, Зузя Мінко, Віктар Рэй і Бартэк Кучэўскі.

— Мы любім спяваць па-беларуску разам з нашымі настаўніцамі і падабаюцца нам гульні, калі мы размаўляем, — сказалі Габрыся Прыступюк, Кася Кірылюк, Мая Міхаляк і Магда Лабузінская.

— Мы любім гаварыць вершыкі па-беларуску, — сказалі Ясь Лісоўскі і Зузя Мінко. Настаўніца Міраслава Ніканчук дабавіла, што Ясь Лісоўскі — лепшы ў садку дэкламатар.

— Мы выконваем цікавыя малюнкі і робім прыгожыя сурвэткі. Рабілі прыгожыя лялькі, выцінанкі і ланцужок на ёлку, — сказалі Ганя Ціханюк, Мартына Саўчук, Бартак Вашковяк, Оля Кулік, Амэлька Паўлоўская і Анастасія Скальская.



Калі акардэон у рукі ўзяла Ала Супрун, дзеткі разам з Міраславай Ніканчук (на здымку) сталі па вялікім крузе танцаваць да песні «Ой за гаём, гаём»

Калі акардэон у рукі ўзяла настаўніца Ала Супрун, дзеткі ўжо ведалі, што будуць вадзіць карагод і добра гуляць. Дашкольнікі разам з настаўніцай Міраславай Ніканчук сталі па вялікім крузе танцаваць да песні «Ой за гаём, гаём». Усе дзеткі ахвотна былі зрабіць супольны здымак са сваімі настаўніцамі.

Настаўніца Міраслава Ніканчук:

— Усё пачалося ў 2003 годзе з першага праекта «У бок тоеснасці. Крок першы — прадшколле». Сродкі мы атрымалі ад Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь у Беластоку. Тады апрача сустрэч накіраваных на знаёмства з нашымі традыцыямі, на нашым панадворку паўсталі невялікая драўляная хатка, вятрак, калодзеж і ўсё гэта было агароджана. Хаткай карыстаюцца нашы дзеткі па сённяшні час і вучацца, якая была ў мінулым у нас забудова. Другім праектам было «Прадшколле з традыцыяй». Мы тады запрашалі Зою Майстровіч з Рудутаў, якая вучыла саломапляценню і знаёміла дзетак са сваёй паэзіяй. Заняткі вялі таксама спадарыні Раіса з Дубіч-Царкоўных і Вольга з Ляўкова. Вельмі цікавымі былі заняткі з Аннай Фіёнік і Дарафеем Фіёнікам, якія вучылі дзетак народным песням і танцам, вадзілі карагоды, а Тамаш Сцепанюк падыгрываў на акардэоне. У нашым садку рэалізаваліся таксама іншыя праекты. Мы з Алай Супрун сталі весці музычны калектыў, які пасля атрымаў назву «Калыска» і для яго былі пашыты народныя ўборы.

Дырэктар Ірэна Гапунік удакладніла, што побач Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь у Беластоку, сродкі на рэалізаванне праектаў прадшколле атрымлівала ад бургамістра Гайнаўкі.

Калектыў «Калыска» выступаў з беларускімі творамі падчас конкурсу «Беларуская песня». Дашкольнікі дэкламавалі вершыкі падчас конкурсу «Роднае слова» і спявалі калядкі на «Сустрэчах з праваслаўнай калядкай». Міраславе Ніканчук і яе падапечным вельмі спадабаўся «Фестываль дзіцячай песні нацыянальных меншасцей». Апошнім часам «Калыска» выступала ў Гайнаўскім белмузеі падчас «Мастацкіх сустрэч школьнікаў» і ў Гайнаўскім белліцэі ў час мерапрыемства «Пікнік з беларусам». Раней дзеткі Прадшколля № 1 у Гайнаўцы выступалі з тэатральнай пастаноўкай падчас беларускага агляду. У планах калектыву «Калыска» — тэатральная пастаноўка на беларускай мове.

— Ініцыятарамі заняткаў па беларускай мове ў нашым прадшколлі былі бацькі. Да навучання па-беларуску станоўча ставіцца наша дырэктар Ірэна Гапунік. Дырэктар Прадшколля № 14 у Беластоку Луцыя Немяровіч, настаўніцы і дзеячы аб'яднання «АБ-БА» дапамаглі нам падрыхтаваць праграму навучання і зараз адукацыя па-беларуску адбываецца ў нас у рамках праграмнай падставы навучання. Мы, настаўніцы, прымалі ўдзел у майстар-класах, арганізаваных аб'яднаннем «АБ-БА», карыстаемся іхнымі матэрыяламі. Я размаўляю з дашкольнікамі на беларускай літаратурнай мове і на нашым дыялекце. Бачу, што дзеткі разумеюць тое, што я гавару па-свойму, а калі нейкае слова ім незразумелае, то дапытваюцца, што яно абазначае. Некаторыя з іх чуюць гутарковую мову дома ад бацькоў, а большасць ад сваіх бабуль і дзядуляў. Дзеткам асабліва падабаюцца гульні, скорагаворкі, вершыкі, калі мы гаворым на нашым дыялекце. Нам вельмі падабаецца кніжка «Як выскочыў варобей», выдадзеная Студзіводскім музеем, якой мы часта карыстаемся. Калі мы развучваем песні і танцы, займаюцца супольна мае дзеткі і дашкольнікі Алы Супрун. Яна іграе на акардэоне, а я вучу танцам, — сказала Міраслава Ніканчук.

— Мы робім стаўку на музычную адукацыю. Я іграю на акардэоне, а дзеткі спяваюць або танцуюць. Хочам разам з Міраславай навучыць дзетак танцаваць «Лявоніху». Цікавымі былі мастацкія заняткі з Наталляй Герасімюк. Знаёміла яна дзетак з традыцыйным ручніком. Дашкольнікі выконвалі ўзоры для ручніка, папяровыя выцінанкі і лялькі. Прадбачваем маляванне ўзораў з ручнікоў на палотнах. Цяпер дзеткі будуць выконваць працы на мастацкі конкурс «Вясна маладых талентаў», які арганізуе Гайнаўскі дом культуры. Падчас заняткаў беларускай мовы мы робім тое, што любім і будзем працягваць адукацыю на беларускай мове, — сказала настаўніца Ала Супрун.

Міраслава Ніканчук і Ала Супрун арганізавалі экскурсію ў Дубічы-Царкоўныя, дзе ў Ізбе культуры і традыцыі Міраслава Іванюк знаёміла дзетак з даўнімі прыладамі працы. Дашкольнікі паспрабавалі зрабіць сурвэты са стужак, пабачылі як у традыцыйнай печы выпякаліся булачкі, якія пасля можна было з'есці. Дзеткі з Прадшколля № 1 хадзілі ў Беларускі музей у Гайнаўцы, дзе глядзелі выступленні вучняў, з якімі займаецца Іаанна Стэльмашук-Троц. На майстар-класы настаўніцы хочуць запрасіць у садок мастака Віктара Кабаца.

Апошнім часам дзеткі выступілі перад сваімі сямейнікамі падчас «Куцці» і «Дня бабулі і дзядулі» з адмысловай праграмай, падрыхтаванай на занятках беларускай мовы.

— Нашы дзеткі вельмі ахвотныя вучыцца па-беларуску і любяць нашы заняткі, — заявілі настаўніцы Міраслава Ніканчук і Ала Супрун.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Надзеі Артымовіч — 70!

Сёння беларуская літаратурная грамадскасць святкуе 70-годдзе славутай паэткі Надзеі Артымовіч. Так сталася, што мы жывем у розных краінах, але ў адным часе і адной мове. І мова беларуская ўдзячная часу за існаванне высокай пластыкі і глыбіні, рэалізаванай у вершах пані Надзеі.

Колькасць напісанага ніколі не была для Надзеі Артымовіч прыярытэтам. Важнаю была духоўная дакладнасць верша, дзе сплятался беларуская песенная лірыка, „белыя пейзажы“ роднага Бельска, інтэлектуальная традыцыя верлібра польскай паэзіі XX стагоддзя. Менавіта таму нячаста выходзяць яе паэтычныя кнігі і менавіта таму яны становяцца бібліяграфічнай рэдкасцю, сапраўдным падарункам для аматараў лірыкі.

Беласточчына да канца 1980-х знаходзілася за культурнай заслонай, вывешанай савецкай уладай. І хоць не была тая заслона ў поўнай ступені жалезнай, творы Надзеі Артымовіч напоўніцу адкрыліся беларускай грамадскасці толькі з пачаткам перабудовы. Вершы яе прыйшліся якраз дарэчы ў часы паўставання новай інтэлектуальнай генерацыі літаратараў, аб'яднаных у таварыства „Тутэйшыя“ і ТВЛ, якія шукалі абнаўлення паэтычнай традыцыі праз еўрапейскі досвед. Паэзія Надзеі Артымовіч трапіла якраз у нерв часу. Пэўным падагульненнем чытання Артымовіч у Беларусі і сыходжаннем двух пачаткаў сталася кніга „Дзверы“, у якой вершы паэткі з Бельска каментаваў філасофскімі зномамі лідар інтэлектуальнай генерацыі Алесь Разанаў.

Пані Надзея, грамадскае аб'яднанне „Саюз беларускіх пісьменнікаў“ шчыра віншуе Вас з днём нараджэння! Мы ўдзячныя лёсу, што Вы з намі побач, што творчасць Вашая, ацэненая і прызнаная ўсім паэтычным цэхам, працягваецца. Зычым Вам моцнага здароўя, і каб ніколі не знаходзіліся „дакладныя адрасы“.

**Ад імя Рады і Сакратарыята ГА „Саюз беларускіх пісьменнікаў“ — Барыс ПЯТРОВІЧ (САЧАНКА).**



### *Святочныя словы Надзеі Артымовіч*

*І хоць так многа пражылося,*
*Гадочкаў процьма за плячыма,*
*Хоць ахапіла жыцця восень,*
*Жыць без Надзеі немагчыма.*

*Жыву яшчэ, душой хварэю,*
*Жыўлюся думкаю сардэчнай,*
*Што ёсць яшчэ аднак Надзея*
*І жыць Яна павінна вечна!*

*Віктар Швед*

*Беласток, 18 лютага 2016 года*

# ВАЛЕР УРУБЛЕЎСКІ Ў САКОЛЦЫ

**У 1857 годзе пасля заканчэння Ляснога інстытута ў Пецярбургу ў Саколку прыбывае Валер Урублеўскі, каб распачаць тут свой шлях героя Паўстання 1863-1864 гадоў, генерала Парыжскай камуны.**



20-гадовы прапаршчык атрымлівае прызначэнне інспектарам у новастворанае пісарска-егерскае вучылішча, арганізаванае непадалёк ад Белавежскай пушчы. З яго прыездам Саколка ператвараецца ў адзін з галоўных цэнтраў стваранай Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі, якая рыхтавала ўзброенае выступленне супраць расійскага царызму.

Валер Урублеўскі нарадзіўся 27 (15 па ст.ст.) снежня 1836 года ў мястэчку Жалудок Лідскага павета. Вучыўся ў Віленскай гімназіі разам з Цітам і Канстанцінам Далеўскімі, Зыгмунтам Мінейкам і Францішкам Багушэвічам. Па яе заканчэнні ў 1853 годзе паступіў у Лясны інстытут у Пецярбургу. Удзельнік таемных таварыстваў Яраслава Дамброўскага і Зыгмунта Серакоўскага, якія гартавалі кадры для будучага паўстання з мэтаю аднаўлення Рэчы Паспалітай, ліквідацыі саслоўнай няроўнасці і вызвалення сялян. Тут Валер знаёміцца з братамі Віктарам і Кастусём Каліноўскімі, сумесна з якімі вырашае распачаць стварэнне падпольнай арганізацыі на Радзіме.

### САКОЛКА

Калі Урублеўскі прыбыў у Саколку, яна ўяўляла сабой невялікі горад з колькасцю жыхароў 3412 чалавек (на 1858 год), цэнтр уезда Гродзенскай губерні, праз які яшчэ нават не была пракладзена чыгунка. Саколка складалася фактычна з дзвюх вялізных вуліц — Гродзенскай і Беластоцкай: „Паміж гэтымі вуліцамі і пасярэдзіне горада шырокая плошча, забудаваная невялікімі мураванымі і часткова драўлянымі домікамі; у цэнтры плошчы, за чыгуннай агароджай, стаіць даволі прыгожая мураваная праваслаўная царква. Іншыя шэсць вуліц вельмі нязначныя, так што ўвесь горад як бы складаецца з адной доўгай шасіраванай вуліцы, па баках якой, на адлегласці да 50 сажняў, параскіданыя невялікія драўляныя хаткі, дзе-нідзе прыхаваныя садамі. Акрамя праваслаўнай царквы маецца каталіцкі касцёл, сінагога і дзве габрэйскія школы“.

Саколка была амаль цалкам з драўляных хат. З прамысловых аб'ектаў меліся толькі млын і піваварня Арлоўскага. Штотыдзень па панядзелках ладзіўся гандаль, а кірмаш адбываўся толькі 29 верасня на св. Міхаіла. Горад быў ціхім: за 11 гадоў напярэдадні паўстання ў ім здарылася толькі 1 забойства, 1 самагубства і былі знойдзены 2 мёртвыя немаўляці.

### ВУЧЫЛІШЧА

У 1847 годзе ў Саколцы было заснавана егерскае вучылішча, для якога на наступны год адкрылі падрыхтоўчы клас на 20 чалавек і пачалі закладку будынкаў, завершаных у 1852 годзе. У 1853 годзе з дазволу міністра дзяржаўных маёмасцей адбылося адкрыццё Сакольскага пісарска-егерскага вучылішча, склад якога вызначылі ў 100 вучняў. У ім у асноўным рыхтавалі лясных аб'ездчыкаў і егераў з ліку сыноў дзяржаўных (непрыгонных) сялян з Беларусі і Літвы.

Урублеўскі быў у асяродку вучняў сапраўдным аўтарытэтам, вылзяляўся сваімі здольнасцямі ў стральбе, фехтаванні і арыентаванні на мясцовасці, што ён у далейшым скарыстаў — падчас паўстання. Менавіта пад яго ўплывам многія з выпускнікоў Сакольскага вучылішча далучыліся да атрадаў у 1863 годзе.

У Саколцы Урублеўскі пражываў у доме пры вучылішчы. Разам з ім у адным будынку жыла сям'я Гутоўскіх, сваякоў Апаліна Гафмейстара, сасланага ў 1848 годзе ў глыб Расійскай імперыі за ўдзел у таемнай арганізацыі, будучага актыўнага ўдзельніка паўстання 1863-1864 гадоў. Яны знаёмяцца ў 1857 годзе. Гафмейстар успамінаў пра Урублеўскага, што той „любіў усё палка, страсна, пры гэтым захапляўся музыкай, кожнай карцінай, і таму называю яго энтузіястам“.

Напрыканцы 1850-х гадоў праз Саколку праходзіць Варшаўска-Пецярбургская чыгунка. Яе будаўніцтвам займаліся выхадцы з былой Рэчы Паспалітай з французскімі пашпартамі, у большасці эмігранты — сыны паўстанцаў 1830-1831 гадоў. Яны меркавалі выкарыстаць магчымасці чыгункі для чарговага рыхтуемага паўстання, каб злучыць ёю населеныя пункты, размешчаныя пасярод лясоў, будучых баз партызанскай барацьбы — у Саколцы, Лапах і Парэччы.

На будаўніцтве ўдзельнічае інжынер Браніслаў Шварцэ, які ў 1861 годзе арганізоўвае Беластоцкае кола. Ён некалькі разоў наведвае Урублеўскага ў Саколцы, да якога ў 1861 годзе прыязджаюць таксама Кастусь Каліноўскі, чыноўнік Эразм Заблоцкі, піцейна-акцызны наглядальнік Станіслаў Сангін і ксёндз з Бераставіцы Казлоўскі. Заблоцкі адзначыў у сваіх паказаннях: „Размова ішла пра варшаўскія падзеі; Канстанцін Каліноўскі і Урублеўскі сказалі мне, што складваецца арганізацыя народнага польскага ўрада, якая хутка павінна сфарміравацца па ўсёй Літве, і прапанавалі мне прыняць у ёй удзел“.

### „МУЖЫЦКАЯ ПРАЎДА“

У красавіку 1861 года Урублеўскі атрымлівае чарговы воінскі чын — падпаручнік, а са студзеня 1862 года займае пасаду загадчыка Сакольскай лясной школы. І гэта ў той час, калі ў павеце актыўна распаўсюджваецца „Мужыцкая праўда“.

У ліку яе аўтараў Валер Урублеўскі, Кастусь Каліноўскі і Фелікс Ражанскі.

У Сакольскім уездзе газета распаўсюджваецца вельмі актыўна. Днём Урублеўскі ўзначальвае школу, а начамі ездзіць на кані і раскідвае нумары газеты побач з вёскамі, на скрыжаваннях дарог, каля мастоў, ды і проста на сялянскіх палетках. Дапамагаў яму ў гэтым і фельчар вучылішча Сянкевіч. Напрыклад, у верасні 1862 года чатыры экземпляры першага нумара „Мужыцкай праўды“, якія ляжалі на плацене каля мястэчка Сідра знайшоў селянін Антон Чарапушка.

Напрыканцы 1862 года спецыяльная следчая камісія ў Адэльску, занепакоеная маштабамі ахопу „Мужыцкай праўдай“ навакольных сялян, высветліла, што да распаўсюджвання газеты мае дачыненне Сянкевіч. Таму звярнулася да Урублеўскага як загадчыка вучылішча, каб ён накіраваў свайго фельчара ў Адэльск. Але 29 студзеня 1863 года Валер паведамляў: Сянкевіч „учора“ выехаў у Гродна па сямейных справах.

На чале з Урублеўскім ідзе падрыхтоўка кадраў, якія распачнуць барацьбу вясною 1863 года. Адпрацоўваюцца мерапрыемствы па дзеянні супраць перакідвання расійскіх войскаў чыгункаю. Так, 30 верасня на рэйках паміж станцыямі Саколка і Чорная Весь быў знойдзены вялізны камень, выдзеўбаны такім чынам, каб цалкам прыставаў да рэек. Адначасова такія ж акцы былі праведзены побач з Беластокам, прычым яны паўтараліся 2 і 3 кастрычніка ў адным і тым жа месцы.

У студзені 1863 года ў Польшчы пачалося паўстанне. Урублеўскі чакае, пакольку ў яго прыхаваным ляжыць мандат начальніка Гродзенскага ваяводства, падпісаны Кастусём Каліноўскім. Але ў канцы лютага „белыя“ на чале з Якубам Гейштарам ажыццяўляюць у Беларусі і Літве пераварот. Усе прызначэнні, зробленыя Каліноўскім, скасоўваюцца. У выніку, так і не прыступіўшы да выканання абавязкаў, адхіляецца і Урублеўскі. На яго месца прыбывае стары эмігрант, удзельнік паўстання 1831 г. палкоўнік Ануфрый Духінскі. Агатон Гілер пра яго запісаў: „Рэгулярны салдат аказаўся няздольным весці лясную вайну“. Аскар Авейдэ называе таго „паўнейшая нязадтнасць“.

Але цалкам без „чырвоных“ Гейштар абысціся не мог. Каліноўскі намагаецца пайсці на кампраміс дзеля выратавання паўстанцкай справы і прымае мандат паўстанцкага камісара Гродзенскай губерні. Урублеўскі прызначаецца начальнікам штаба да ваяводы Духінскага.

Напрыканцы сакавіка 1863 года Урублеўскі ад'язджае з Саколкі ў Беласток, дзе яго ўжо чакалі Каліноўскі і Духінскі, каб завяршыць падрыхтоўку да выступлення і разгарнуць шырокую барацьбу ў Краі.

Урублеўскі ад'язджаў з Саколкі назаўсёды, каб упісаць сваё імя ў гісторыю.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК**

# Ласінянская вайна

**У Ласінянах, што пад Крынкамі, Другая сусветная вайна ў поўным разгары. Па вёсцы бушуюць мясцовыя саланіннікі і партызаны. Чым адметныя гэтыя групоўкі? Грыша Бяганскі, крынчанін, ураджэнец Ласінян, аб'ясняе:**

— Увайшоўшы ў хату, партызан просіць есці, а калі штаны альбо боты яму знішчыліся, забірае гаспадарскія, але толькі тады, калі яму падыходзяць па памеры. Саланіннікі бяруць усё, што ў рукі ім пападае, нават бабскія сукенкі.

— Яйкі хавалі пад сеннічок у калыску, — дадае спадарыня Бяганская, — пакуль саланіннікі не зарыентаваліся і не пачалі выкідаць дзіцяці з той жа калыскі, каб яйкі пазабіраць. Потым клалі іх у печку, але і там увесь попел перакінулі.

Спадар Рыгор помніць як у 1939 годзе праз вёску сунулі рускія танкі. Дзень і ноч, без перапынку. Усе казалі: „Во дзе сіла, во дзе сіла". А немец быў хітрэйшы, самалётаў нарабіў, такіх двухмесных кукурузнікаў, якія, нізенька спусціўшыся, бамбілі кукурузу альбо жыта. Уцякаючым назад праз вёску рускім танкі гарэлі на хаду. Наляціць самалёт і па ўсім. Салдаты прыйшлі ў хату, сказалі: „Бой будзем адкрываць". Ласінянцаў пагналі на выган, у чыстае поле. А ў 1941 годзе кукурузнікі ўсё па гэтым жыце. Стралялі толькі да салдат, цывіляў не чапалі. Грышы было тады шэсць гадоў.

Яго бацьку Аляксандра ў 1939 годзе змабілізавалі ў польскае войска. Прыйшоў загад і трэба было яго выканаць. Многа мужчын тады пазабіралі. На ласінянскай гары, пасярэдзіне вёскі стаіць капліčка. Пабудавалі яе, мабыць, яшчэ пры цары для развітання з нябожчыкамі. З мужчынамі, якія адпраўляліся на вайну, таксама развіталіся пад той жа капліčкай. Адводзілі іх туды цэлымі сем'ямі. На канцы ішоў музыкант-гарманіст. Іграў і плакаў. Усе плакалі. Грышу да капліčкі бацька нёс на руках. Узяўшы торбы з сухарамі, павандравалі праз Галынку, дзе знаходзіліся іхнія могілкі, на чыгуначную станцыю ў Бераставіцы.

Аляксандр Бяганскі служыў у лёгкай артылерыі. Пад Варшавай акружылі іх немцы. З дзесяці ўланаў, якія на канях рашылі супрацьстаяць узброенаму па зубы ворагу, пражыло толькі двое. Палякі паднялі белы сцяг. Зняволеных пагналі ў Прусію дапамагаць нямецкім гаспадарам, заступаць маладых, ваюючых на фронце немцаў. Аляксандр заставаўся там да 1941 года.

У тым жа часе дзядзьку спадара Грышы, Грышу Раманіка, польскага ўлана з Сувальскага палка зняволілі рускія. Камендант, даведаўшыся, што дзядзька — праваслаўны беларус, адпусціў яго дахаты. Вярнуўся ў поўнай вайсковай форме, са шпорамі і шабляй.

Аляксандр уцякаў з нямецкай няволі ў нямецкія Ласіняны. Ішоў, арыентуючыся на ўсход сонца, палямі, далёка ад дарог, з валізкай напханай цэглямі. Было іх трох уцекачоў. Паміж імі — жыхар Ваўкавыска, якому таксама пашанцавала вярнуцца дахаты. Пагубіліся ўначы, уцякаючы ад едучага на роварах нямецкага салдата. Бацька застаўся сам. Найгорш было на нямецкай мяжы. Нехта яму падказаў, што трэба пачакаць да змены вартаўнікоў. Падказ аказаўся карысным. Перайшоў на другі бок у кароткім перапынку падчас змены вартаўнікоў. Хаваўся ў лесе, але трэба было і да людзей выйсці, есці папрасіць, памыцца, адпачыць. Пайшоў у лес. Палякі прымалі яго вельмі добра, кармілі, хтосьці даў граблі, быццам для земляроба, які ідзе ў поле. Ён жа за Польшчу ваяваў. Часам перашкаджаў яго беларускі акцэнт, але ж Польшча была тады ад мора да мора. „Не, товажышу", — сказаў адзін польскі гаспадар. „Я не естэм товажышэм, я естэм панэм", — адказаў яму Аляксандр. Па дарозе сустрэў гандляроў, якія прапанавалі ехаць з імі ў Варшаву, абяцалі дапамагчы з афармленнем неабходных дакументаў. Планы пакрыжаваў нямецкі сабака, як знайшоў іх прытоеных у аўсе. Аляксандр ледзь выратаваўся. Дакладней, выратаваў яго сабака з непадалёкага панадворка. Сабакі кінуліся на сябе, а Аляксандр — у лес. З лесу ў збожжа, са збожжа ў лес. Тут раптам бачыць, немец сядзіць і ровар рамантуе. Упаў у збожжа і чакае, пакуль той знікне. І зноў са збожжа ў лес, з лесу ў збожжа. Ідзе з вінтоўкай ляснік. Уцякаць немагчыма. Разгаварыліся. Аказалася, што ляснік — зямляк родам з падкрынскіх Гуранаў. Пачаставаў Аляксандра махоркай, паказаў дарогу. Рускім палонным палякі, далікатна кажучы, не памагалі. Аляксандр не прызнаваўся, што ён праваслаўны беларус. Не было такой патрэбы, каб прызнавацца ні перад чужымі, ні тым больш перад сваімі. Праўду кажучы, з гэтымі апошнімі справа выглядала найбольш нецікава.



Надзея Бяганская з дзяцьмі Геняй і Аляксандрам. Здымак зняты ў Бераставіцы для бацькі, які тады знаходзіўся ў палоне. Вопратка дзяцей пазычана ад багацейшых сваякоў.



Грыша Раманік. Партрэт зняты ў атэльe Fotografja „Modern" J. Bernsztejn, Suwałki, Kościuszki Nr 66.



Сяргей Раманік (злева) у савецкай арміі. Подпіс на адвароце здымка па-расейску: „На память Сестрице Нади от Сережи 6-4-46 года".



Аляксандр Бяганскі (злева).

— Бацька казаў, — гаворыць спадар Рыгор, — што калі б прыйшлося ўцякаць ад немцаў беларускімі вёскамі, ён ніколі дахаты не вярнуўся б.

Свае людзі не пускалі яго ў хату, не дзяліліся хлебам. У падгарадоцкай Пілатоўшчыне нехта раптам закрычаў: „Хутчэй каня запрагай!". Можа хацелі яго прыбраць, а можа і не хацелі, але Аляксандр спалохаўся ўсур'ёз. Дабег праз Юзэфова на крушынянскае поле, няцэлых дзесяць кіламетраў ад роднай хаты. Нехта глядзеў праз бінокль у крушынянскі бок, можа партызан, а можа саланіннік. Прачакаўшы хвіліну ў кустах, накіраваўся на скрабляцкі гасцінец, званы таксама напалеонаўскім.

Вярнуўся ў чужую хату. Яго ўласная згарэла перад вайной. Жонка Надзя, дзеткі Грыша і Геня знайшлі прытулішча ў хаце бацькоў Надзі — Раманікаў.

— Мы ўжо спаць палягалі, — кажа Рыгор.Траціць голас. Слёзы ціснуцца на вочы.

— І так заўсёды, — пацвярджае яго жонка, — плача, гутарку займае.

— Прыйшла бабуля, — вяртаецца голас спадару Рыгору. — Геня, Грыша, уставайце, да вас з Непарожняўцаў сваяк прыйшоў. Мне ў 1942 годзе споўнілася ўжо сем гадоў, а сястры Гені — пяць. Сядзеў ён на кухні, запытаў: „Геня, Грыша, як вы жывяце". Я кажу: „Папка!" — так калісь называлі. А Геня так і падумала, што гэта нехта з Непарожняўцаў альбо які палонны салдат. У вёсцы было іх тады шмат.

Неўзабаве ласінянскі солтыс адправіўся ў Бераставіцу афармляць Аляксандру дакументы. Узяў з сабою самагонку, якую дзядзькі Раманікі гналі безупынна. Такім чынам бацька ўладкаваўся ў сваёй роднай вёсцы, пакуль не забралі яго саветы. Гэта было ў 1944 годзе. Здатных да войска бралі на вайну, астатніх на працу ў калгасах. Дзядзькі Раманікі таксама туды пайшлі. Спярша забралі іх у запасны полк у Мінск. Дзядзька Сяргей быў ваенным краўцом, штаны лейтэнантам цыраваў, але калі роднага брата пасылалі на фронт, паехаў разам з ім. У Венгрыі наехалі аўтамабілем на міну. На шчасце выратаваліся і памаршыравалі на Берлін.

Такіх як Аляксандр, нестраявых, 1906 года нараджэння, з параненымі нагамі бралі ў калгасы. Яму як раз пашанцавала. Аддалі яго ў Полацк у ваенную кухню запаснога палка. Штодня хадзіў на чыгуначную станцыю разгружаць мяшкі з мукой і крупамі. Аднойчы пабачыў хлопчыка. „Дзядзя, дайце кусочак хлеба, — пачуў. — Мы з мамай прыехалі на западную таму, што там няма чаго есці. Жывем у зямлянцы, а бацька на вайне". Аляксандр аддаў дзіцяці апошнюю лусту, а яго савецкі супрацоўнік нават увагі на хлопчыка не звярнуў. У вагонах часам мяшок парвецца, нешта высыплецца. Звычайна лейтэнант зграбаў гэта на гарэлку. Бацька пазбіраў муку і аддаў маці хлопчыка. Прыйшла ў вайсковай гімнасцёрцы, іншай вопраткі не было.

Канец вайны Аляксандр сустрэў у Полацку.

Іаанна ЧАБАН

## Ініцыятыўныя сёлы

Рады салэцтваў Дашы, Дабрывада, Сакі і Тапаркі ў супрацоўніцтве з Гарадскім асяродкам культуры, спорту і адпачынку ў Кляшчэлях удзельнічалі ў конкурсе, аб'яўленым Фондаму карысць развіцця вёскі „Польская вёска 2000" імя Мацея Ратая і атрымалі мікрадатацыю на рэалізацыю сваіх праектаў:

**Дашы** – праект *Рэвіталізацыя культурна-гістарычнага месца сяла Дашы*, які прадбачвае аднаўленне прыдарожных крыжоўу цэнтры вёскі, рамонт агароджы вакол помнікаў, добраўпарадкаванне навакольнай тэрыторыі шляхам пасадкі дрэў, збудаванне дзвюх лавак для сядзення і інфармацыйнай таблiцы з гісторыяй сяла. Кошт праекта: 7 549 зл. – датацыя: 6 469 зл.

**Дабрывада** – праект *Каравай* – аднаўленне даўнейшага вясельнага абраду. У рамках праекта прадугледжаны майстар-класы па вырабе каравая з удзелам дзетак, моладзі і дарослых, дэманстрацыя падрыхтоўкі цеста, выпеку здобнага бохана, затым упрыгожанне яго кветкамі, а таксама навучанне каравайным прыпеўкам. Жыхары вёскі лічаць, што абрадавае пячэнне – каравай – павінна быць прадуктам вясковай супольнасці. Кошт праекта: 6 503 зл. – датацыя: 5 369 зл.

**Сакі** – праект *Буслава лапа*, які тычыцца даўнейшага абраду сустракання вясны. У рамках праекта адбудзецца супольнае пячэнне буславай лапы, г.зн. посных булачак у выглядзе буслінай лапы. Кошт праекта: 4 375 зл. – датацыя: 4 284 зл.

**Тапаркі** – праект *Перапяліца*, які зводзіцца да рэканструкцыі даўнейшага абраду завяршэння жніва. Праект прабдачвае арганізаванне майстар-класаў,дэманстрацыю выкакання перапяліцы, навучанне абрадавым прыпеўкам. Кошт праекта: 5108 зл. – датацыя: 4 319 зл.

Мэта праектаў – ажыўленне дзейнасці жыхароў вёсак, актывізацыя мясцовай супольнасці па захаванні сваіх традыцый і абрадаў, а таксама стварэнне сельскага прадукту дзеля выкарыстання яго для турыстычных мэт.

Вышэйзгаданыя праекты складаюць разам супольны праект пад назвай *Этнаграфічны веласіпедны шлях гміны Кляшчэлі*. Ініцыятыўныя сёлы будуць прыпынкамі на гэтым шляху. Супольны праект прадбачвае запіс выканання праектаў у паасобных вёсках, афармленне графічных знакаў характэрных вылучаным прыпынкам, устанаўленне інфармацыйных таблiц на роваравым шляху, а таксама апрацаванне адмысловай інтэрнэт-старонкі і выпуск рэкламных лістовак. Кошт сумесных праектаў складае суму 23 868 зл, у тым ліку 20 441 зл. гэта мікрадатацыі. Рэалізацыя праектаў пачынаецца з пачаткам сакавіка і завершыцца ў верасні г.г.

Уладзімір СІДАРУК


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Беларуская дыктоўка і школьны тэатр





— Мае вучні ўжо ў верасні дапытваюцца пра дыктоўку, — кажа настаўніца Іаанна Марко, — таму мы робім усё, каб гэты конкурс быў важны і незабыўны.

З рання, 19 лютага, у непублічную школу святых Кірылы і Мяфодзія пачалі з'язджацца госці. Прыехалі вучні з Нарвы, з'явілася моладзь з беластоцкай гімназіі № 7. Праўда, госці з вялікай нясмеласцю прыступілі да дыктоўкі, адкамандзіраваўшы сваіх «грамацеяў». Гаспадары, як заўсёды, па поўнай праграме паднялі выклік. Пісалі амаль усе. Без нерваў, страху, у лёгкай, нязмушанай атмасферы свята. Настаўніца Іаанна Марко зрабіла прыгожы жэст у бок нашай газеты. У сувязі з 60-годдзем тыднёвіка ўдзельнікі пісалі дыктоўку па тэкстах з кніжак, выдадзеных «Нівай». Гімназісты мелі за задачу напісаць фрагмент з „Бежанства 1915 года", а вучні пачатковых школ — фрагмент успамінаў Віктара Шведа „З Мора ў горад". Тэкст прачытаў Улад Грынеўскі, журналіст Радыё Рацыя.



Разам з беларускай дыктоўкай у школе праходзілі мастацкія выступленні. Нарва прыехала з тэатральнымі сцэнкамі «Кірмаш», «Капанне бульбы» і «Лавачка» ды гавэндай Крыстыяна Паскорбкі.

— «Капанне бульбы» мы паказалі ўжо пяць разоў, — кажа настаўніца Ніна Абрамюк. — Сцэнка расказвае пра тое, як нашы прабабкі вясковай суполкай капалі бульбу. Пра тое, якія ў іх былі размовы, што адбывалася ў вёсцы. Усё гэта на аснове ўспамінаў з нашых вёсак. Магчыма таму людзі запрашаюць. Зараз думаем «Капанне бульбы» паказаць у Трасцянцы.

Паралельна ў беластоцкай гімназіі № 7 адбываўся міжгімназічны конкурс стральбы.

Мы, у сваю чаргу, не прыйшлі з пустымі рукамі. Для ўдзельнікаў конкурсу мы падрыхтавалі кніжныя падарункі і мультымедыйную прэзентацыю пра Сустрэчы «Зоркі».

А зараз найважнейшае! Сёлетнюю беларускую дыктоўку ў катэгорыі пачатковых школ найлепш напісалі Алеся Буткевіч — першае месца, Іван Карсунскі — другое, Эмілія Калодка — трэцяе; вылучэнні — Зузанна Бакер і Вольга Федарчук. Усе яны з праваслаўнай школы. Пра вынікі ў гімназіі напішам праз тыдзень.

**Зорка,**
**фота Ганны КАНДРАЮЦК**

*Міра ЛУКША*

## Ядловец

*Ядловец пахучы аброс*
*сухі пажаўцелы адкос,*
*як цёмна-зялёныя свечы*
*падняў калючыя плечы.*
*Ягад гаркавы рой*
*трымае ён пад палой.*
*І на яловай зямлі*
*стройна гадуе камлі.*
*Учэпіцца коранем ён*
*у сухі пясчаны адхон.*
*А хто такі там жыве,*
*пад ядлоўцам жарты чаўпе?*
*Кажуць, часам прыйдзе лясун*
*і пачэша зялёны каўтун,*
*бубку з'есць і пасціць у імхах.*
*І жук там жыве, і мурах.*
*Ачышчае паветра ў барах*
*здаровы ядлоўцавы пах.*
*Ядловец вазьмі прытулі,*
*шчаку сабе не скалі.*
*Пяшчоту ядлоўцу дары,*
*што расце на пясчанай гары.*

**Паўліна КАЗБЭРУК**
**ПШ у Міхалове**

## Гульня

**Каб у згодзе жыць,**
**Трэба разам**
**на паляванне хадзіць.**
**Паляванне гэта добрая справа,**
**І мыш і тыгр**
**сябруюць гэтак удала.**

## УВАГА КОНКУРС! № 9-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 6 сакавіка 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**З чалавекам ён сябруе,**
**Ноччу двор яго вартуе,**
**Служыць шчыра небарака,**
**Хоць і кажуць**
**Злы с.....**

**Два рагі, бы два сукі,**
**Цёмна-бурыя бакі.**
**Не ад працы цяжкай, не тоўсты горб**
**у іх на спіне.**
**З....**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадкі № 5-16: авечка, мароз. Узнагароду, запісную кніжку, выйграў Ігар Кардаш з Нарвы. Віншуем!**

# Стралялі ў дзень роднай мовы



Міхал Падолец, Матэвуш Бурачэўскі, Паўліна Вэршка



Пераможная каманда, разам з Альжбетай Рудкоўскай і дырэктар Уршуляй Штабэльскай-Копа

Кажуць, беларусы — ціхі, памяркоўны народ. А вось, калі прыйшлося страляць, цяжка было ўтаймаваць эмоцыі. — *Нарэшце якісь файны конкурс! Што адпаведнае да сучаснага настрою!* — каментавалі на фейсбуку гімназісты. Тыя, якія не трапілі на спаборніцтвы, моцна шкадавалі і нават пакрыўдзіліся, што іх не запрасілі. Мова пра II Міжгімназічны конкурс стральбы, які адбыўся 19 лютага ў Беластоку. Конкурс быў прымеркаваны да Дня роднай мовы. Частка стральцоў пісала ў гэты дзень беларускую дыктоўку.

Спаборнічала шэсць гімназій: Непублічная Гімназія свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, Гімназія № 3 з Бельска-Падляшскага, Гімназія з ДНБМ з Гайнаўкі, Гімназія з Кляшчэляў, Гімназія імя архіепіскапа, генерала дывізіі Мірона Хадакоўскага з Нарвы і арганізатары — Гімназія № 7 з Беластока.

Сярод пераможцаў апынуліся:

**I месца** — Матэвуш Бурачэўскі (99 на 100 балаў) — НГ свсв. Кірылы і Мяфодзія.

**II месца** — Міхал Падолец (96 на 100 балаў) — Гімназія № 3 у Бельску-Падляшскім.

**III месца** — Паўліна Вэршко (95 на 100 балаў) — Гімназія з ДНБМ у Гайнаўцы.

Найлепшыя каманды:

**I месца** — Гімназія № 3 у Бельску-Падляшскім.



Матэвуш Бурачэўскі

**II месца** — НГ свсв. Кірылы і Мяфодзія.

**III месца** — ПГ № 7 у Беластоку.

Год таму конкурс стральбы прыдумала настаўніца беларускай мовы Альжбета Рудкоўская. На гэта паўплывала адна акалічнасць. Сярод яе найстарэйшых навучэнцаў былі амаль адны хлопцы. Конкурс з ходу атрымаў энтузіястычныя рэцэнзіі гімназістаў. Зараз аказалася, што да стральбы не менш імкнуцца дзяўчаты. Раней гэты від спорту расславіла выпускніца гімназіі Кася Бількевіч. Нам спадабаўся дух сяброўства гэтага конкурсу. І задума, каб спалучыць яго з беларускай дыктоўкай.

## Вершы Віктара Шведа



### Карысная гульня

— У заапарк згуляем,
Мой браце Мікалаю.
— А што рабіць мы будзем?
Міколка стаў марудзіць.

— Я малпішонам буду, —
Сказала сястра Люда.
— А ты мне нечакана
Прынясеш бананаў.

### Усё ў мяне чужое

— Ты, мілы Адаме,
Маеш носік мамы,
Таты валасочкі,
Бабуліны вочкі.

— Боты сястры Улі,
Брацікa кашулю,
Маю ўсяго многа,
Уласнага нічога.

Эмілія КАЗЛОЎСКАЯ
Геранімова, ПШ у Міхалове

### Школа

Сёння ў школе
дзве класныя работы,
Мы сур'ёзна бярэмся да работы,
Адна па англійскай мове,
Другая па беларускай мове,
Гэта ўсім на здароўе!

## Польска-беларуская крыжаванка № 09-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 5:**

Ас, бровы, ігра, Ас, грант, янот, наш, яркі, лыжка. Ян, сігнал, грош, брат, кран, як, тора, Ява, рысопіс.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Куба Анішчук, Кінга Леўша, Караліна Кандрат** з Нараўкі, **Зузанна Мішчук, Марыя Варанчук** з Арэшкава, **Ігар Кардаш** з Нарвы, **Сара Скаўронская** з Беластока, **Вікторыя Гаць, Наталля Маркевіч, Іаанна Нікіцюк** з Бельска-Падляшскага, **Наталля Ляўчук, Анна Парфянюк** з Новага Корніна. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Kronika | | | | | | | | Ocet / Chińskie imię | | Krówka |
| Chrom | | | Bok | Port | Kraków | | Lok | | | |
| | | | Pszenica | | | | | | | |
| Nos | | Bo / Nerka | | | Kot | | | Ar | | |
| Norka | Dysk | | | | | | Skarb | To | | |
| Dyktando | | | | | | | | | Jary | |
| | | | Ar | Za | | Może | | Jak | | |
| Ser / Zdanie | | | | | Makro | | | | | |
| Korowód | | | | | | | | | | |

**Анна РАМАНОВІЧ (1949 г. нар.) — беластачанка, настаўніца. Ад 1964 года піша вершы і прозу для дзяцей, моладзі і дарослых. Была старшынёй Настаўніцкага літаратурнага клуба ў Беластоку. Вяла дзіцячыя тэатры і кабарэ для дарослых, пісала для іх тэксты. Як паэтэса больш вядомая ў Польшчы чым у родным горадзе. Паважае сяброўства, кахае людзей, музыку Шапэна, Вярцінскага і старыя расійскія рамансы. Цэніць мастацтва Дзюрэра і Хэлмонскага. Кахае жывыя кветкі і чалавечую мудрасць. Збірае манеты, маркі і фарфор. Цікавіцца фатаграфіяй. Летам вырошчвае расліны на сваім участку. Восенню стварае паэзію. А зімой рыхтуе ў кухні сапраўды паэтычныя каралеўскія стравы. Маці Галіны і Пшэмыслава. Бабуля Уршулі, Люізы і Марыкі. Цяпер Анна Рамановіч — на заслужанай пенсіі. Надалей кахае тое, што прыгожае і разумнае (прыроду і людзей).**

# Анна ад сеніёраў і святога Мікалая



Лаўрэатка 58 літаратурных конкурсаў, аўтарка тэкстаў песень, якія выйшлі на кампакт-дыску і ў магнітафоннай версіі п.з. «Паяднанне». Перакладае на польскую мову песні з беларускай і рускай моў. Свае творы публікавала ў Польскім радыё Беласток, перадачы «Лета з радыёпрыёмнікам» I Праграмы Польскага радыё ў Варшаве і Радыё Палёнія ў Чыкага. Друкавалася, між іншым, у часопісах: «Twórczość Robotników», «Nike», «Bez przysłony», «Własnym głosem», «Gazeta Współczesna», «Pogłosy», «Wprost», «Dyskusja», «Płomyczek», «Miś», «Martyria», «Kurier Podlaski», «Głos Wybrzeża». Андрэй Паінта перакладваў яе творы на нямецкую мову...

У Клубе «Зеніт» у мікраёне Пяста арганізавала Клуб сеніёра. Раней дзейнічала на Антанюку. Усюды прыцягвала тлумы людзей. І ў «Зеніце» арганізавала старэйшым жыхарам (і не толькі ім) сустрэчы з мастакамі, пісьменнікамі, разьбярамі Падляшскай зямлі. Вечарыны на Пяста збіралі не толькі сеніёраў. У апошніх сваіх клубных планах (запісаных у маі два гады таму) мела запланаваную на верасень сустрэчу сваіх баявітых сеніёраў з аўтарамі з нацыянальных меншасцей Беласточчыны. У верасні даведалася, што не будзе мець ужо доступу да клубных залаў разам са сваімі багатымі сустрэчамі, хіба што раз у месяц на паўгадзінкі для старэчаў, бо грошай для яе не будзе, а і праграма была не такая як трэба, бо нашто каму тыя «меншасці». Але на месца Анны Рамановіч былі прыняты дзве асобы — інструктары па «зумбе» і «самбе». Як заўважыла Анна Рамановіч, старшыня Рады жыхароў мікраёна Пяста, вымерла частка шчырых наведвальнікаў яе мерапрыемстваў, для якіх сустрэчы ў клубе былі нагодай для таго, каб «адблакавацца» — увогуле выйсці з «блёку», павесяліцца, пабачыць людзей, ажыць і забыцца пра ўласную нямогласць і старасць. А вельмі часта былі гэта проста танцы, калі падыгрывалі беларускія гурты, і была нагода крыху распрастаць немаладыя косці. Зузанна Крукоўская, адна з тых, хто сумуе па радасных культурных мерапрыемствах у клубе «Зеніт», з горыччу ўспамінае, як новая кіраўнічка клуба вырвала з-пад яе рукі стол, калі пенсіянеркі рыхтавалі мерапрыемства, памагаючы Анне Раманоўскай:

— Проста прагнала нас, бо старыя недарэкі павінны сядзець дома. Сказала, што мы смешныя з гэтымі забаўкамі і няма для нас тут месца. Бо мы сваё ўжо адгулялі. Пакрыўдзіла і нас, а найбольш Аню, бо ж яна ўсё жыццё пры

**культуры і пры людзях**.

— Ты не наша, — сказала аднойчы сяброўка па танцах маладзенькай Ані.

Як не наша? ***Руска.*** Без свайго месца — з бацькі Аляксандра з Краснаярска, з маці Анны з Навасад каля Ялоўкі (народжанай у Беластоку). Папраўдзе ад бабулі з Навасад, Олі Павільч, і прабабкі Супрунянкі. Ужо бацькі не пачуваліся да сваёй нацыянальнасці, не думалі, кім яны ёсць. Былі ўжо «з места». Яшчэ далёка перад першай вайной Аніны дзяды, патомныя выкшталцоныя інтэлігенты-інжынеры прыехалі з Краснаярска ў Лодзь, і былі першымі, каго пагналі назад у бежанства, ужо з дзецьмі народжанымі і выхаванымі ў Лодзі. Зноў у неўзабаве рэвалюцыйны Краснаярск, у сярэдні клас з верай у адукацыю і культурнае выхаванне. Пра жыццё свайго бацькі, які ў час другой вайны далучыўся да арміі як юнак, Анна хацела б напісаць кнігу — «Агні Енісея». «Крутой парень» некалькі разоў вырываўся смерці, навучыўся выжываць у найбольш неспрыяльных умовах, і пасля не даваў сабе рады ў мірным жыцці. Завярнуў у галаве сямнаццацігадовай прыгажуні, калі апынуўся ў шматнацыянальным Беластоку. І Аніны і Лёневы бацькі жылі як умелі, маладыя і прыгожыя, поўныя прагай нацешыцца жыццём, з дзецьмі, якім здавалася, што яны старэйшыя за іх. Запісалі былі Аню спачатку на прозвішча дзядоў, Астраповічаў. Папраўдзе невядома было, ці пад сапраўдным прозвішчам запісаўся бацька з маці. Аказалася, ён Сергеев. Рускі. І Аня з гэтым прозвішчам-назначэннем урэшце ўвайшла ў спелае жыццё. «Руская». І з рускім братам Лявонам Сяргеевым. Мелі пакой пры Купецкай вуліцы (Мальмеда), у камяніцы дзе жылі людзі розных нацыянальнасцей. Бацькоў вечна не было дома. «Зайду да Клары, жыдоўкі, пойдзем на Сенны рынак, купім курыцу, папросім, каб нам яе забілі, бо ж мы, дзяўчаткі, гэтага не зробім, вернемся дахаты, зварым яе. Клара навучыла мяне добра гатаваць. І я наемся, бо ж бацькі па сваіх справах недзе ў горадзе. Тату таксама насіла ў розныя месцы, часам трэба было скрывацца. Адно толькі бацька ведаў — дзіця павінна вучыцца, хадзіць на балет, на спевы, на раяль — так як у іхняй радні, ад пакаленняў культурнай, з добрай грамадскай сферы. І канчатковa мусіў выявіцца як грамадзянін СССР. Пасля Аня як 18-гадовая дзяўчына мусіла ехаць у савецкае пасольства і вырашыць, якое грамадзянства выбраць. Зараз пасля з'ехала маці, якая на канец апынулася ў Швецыі. Па дарозе, калі Аня правінілася ў бацькоў у нейкай драбязе, выгналі яе з дому — матуру здавала жывучы ў сяброўкі ў Васількаве, аж маці прыгадала яе, калі суседзі сталі пытацца дзе іх дачка. «Ну жыве там недзе!» — бестурботна ўхмыльнулася маладзіца, якой было ледзь за трыццаць. Аж дзіў бярэ, што ў такіх бестурботных, несур'ёзных, часам інфантыльных бацькоў выхаваліся дзеці — Аня і брат — сур'ёзныя, абавязковыя, пільныя, уважлівыя да іншых, поўныя дабрыні і спагады, шчодрыя і адказныя.

— З маленства да 10 гадоў апекавалася я малодшым братам, рабіла парадкі дома. Ад 4 да 13 года хадзіла на балет да пані Бекеровай. Ад 10 да 20 гадоў займалася я ў Польскім чырвоным крыжы, працавала ў амбулаторыі па вуліцы Фарнальскай як рэгістратарка. Ад 15 года не прапускала тэатральных спектакляў у Беластоку і Варшаве. Да 17 года жыцця займалася я балетам, выступала ў Беларускім і Рускім таварыствах. У 16 гадоў вучылася і працавала ў ПЦК, сама вяла лагеры з моладдзю. У 16 гадоў пайшла на дзюдо ў клуб «Ягелонія», а ад 17 — два гады займалася валейболам. У 20 гадоў пайшла замуж, у 24 гады нарадзіла сына. Да 36 гадоў перажывала проста пекла. Ад 36 да 40 гадоў заснаўвала новае жыццё. І ўсё круцілася, каб зарабіць на ўтрыманне дзяцей — мела «рэпасацыю» панчох, пазычальню карнавальных строяў, шыла і вазіла свае вырабы ў Венгрыю. Заснавала новы дом, працавала на ўчастку і ў літаратуры...

Анна Рамановіч з'яўляецца адной з найбольш плённых і ўзнагароджаных у краіне пісьменнікаў, пра што мала хто ведае ў Беластоку... Ад 1995 г., пераможаная хваробай, пайшла на пенсію па інваліднасці. І тут не ўседзела — працавала ў клубах, з сеніёрамі, з дзецьмі, з'ездзіла ў ЗША на пару гадоў, дзе таксама не складвала рук. Новая кватэра, выхаванне ўнукаў. У 1996 г. смерць бацькі (які ўсё ж яшчэ з'ездзіў, з бояззю, у Краснаярск), у 2009 г. — смерць маці на чужыне. Смерць нявесткі. Дэпрэсія — чатыры гады: ад 60-ці да 64-ці гадоў. У 2013 годзе канец любімай працы ў клубе. І той рак шчытавідкі. Ды ў 66 гадоў — новая, чарговая кніга, «Арэол», узнаўленні іншых. Дзясяткі загалоўкаў.

— Адкуль памятаю — заўсёды верыла я ў Бога. Калі я была маленькім дзіцём, маці вяла мяне ў царкву

**святога Мікалая**

па вуліцы Ліпавай у Беластоку. Там мяне ахрысцілі. Мабыць, адтуль таксама выведуць мяне на апошнюю дарогу, — уздыхае Анна, якая перажыла ў жыцці здраду маці і свайго мужа, нялёгкае самотнае выхаванне дзяцей і рак. — Памятаю, як бацюшка пачынаў абкаджваць кадзілам, я зачынала кашляць. Дым дзёр мне, астматычцы, горла. Мама выганяла мяне з царквы, загадвала на падворку чакаць канца багаслужбы. Я сядзела на драўлянай лавачцы і гжэчна чакала маму. У царкву мы хадзілі перад святамі, у святы і пасля свят. У будныя дні працавалі і не мелі часу хадзіць у храм. Калі я падрасла і пайшла ў першы клас Пачатковай школы № 4 па вуліцы Чанстахоўскай, 6, я часта ў будні дзень бегала ў царкву. Каб паглядзець на ікону святыцеля Мікалая. Мама казала, што ён адзін са святых і адзіны, які можа здзейсняць мары. Толькі ён адзін можа папрасіць у Госпада ласкі і даравання. Трэба толькі да яго шчыра маліцца. Ікона святыцеля Мікалая была для мяне святыняй. Калі я падрасла і пачала разумець сэнс веры, насіла іконку з сабою і як толькі насіла нейкі цяжар у душы і трывогу ў сэрцы — малілася шчыра, засяроджаная, з верай, што заўтра будзе лепш. Пасля малітвы заўсёды дакранўся да мяне палец Божы і далонь святога Мікалая. Добры лёс прыносіў тое, што я заўсёды знаходзіла выхад з кабалы і цяжкай жыццёвай сітуацыі. Навучылася на аптэчных шалях узважваць дабро і зло, — усміхаецца паэтэса, якая выдала таксама зборнік апавяданняў «Арэол» пра тое, кім для яе з'яўляецца святыцель Мікалай. Піша ўручную і на машынцы, бараніі Божа камп'ютар — бо яна мае душу.

— Я гатова на адыход. Тастамент склала. Уставіла дзяцей на адыход. Яшчэ засталося кончыць тое, што запланавала — эротыкі, вершы, апавяданні, біяграфію бацькі. Ці паспею? Хацела б.

І не ў самоце Анна, быццам бы чужая, і са сваімі добрымі людзьмі, і з арэолам пакуты і болю, ды ўсё ж светлым, мікалаеўскім.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# Пад сасновым гербам

Едучы поездам у напрамку Чаромхі і далей падаецца, што тамашняя чыгуначная інфраструктура пікіруе ў напрамку цалкавітай адсутнасці. Пазнікалі шматлікія былыя пачакальні, а тыя, што асталіся, гібернуюць са шчыльна забітымі вокнамі, а калі яны яшчэ празрыстыя, то мала ўжо каму тая празрыстасць патрэбная. У Страблі, кіпучай калісь народам станцыі, будынак пачакальні стаіць невідучым і здавалася б, што там гаспадарыць адно час, калі пасажыры чыгункі падаліся адтуль у нейкае бежанства. Аднак ёсць там і нечаканасць. Вылезшы з цягніка ў Страблі заўважаю з недаўменнем новы перон дакладна прымеркаваны да актуальных рэйкабусаў.

Са Страблі кіруюся ў заходнім напрамку, па паўночнай тэрыторыі Вышкаўскай гміны. Маршрут даволі працяглы беручы пад увагу штораз меншую прысутнасць там публічнага транспарту, у выніку чаго адлегласці між прыпынкамі надта ўзбуйняюцца. З гмінных Вышак яшчэ не надта даўно быў у пасляабедні час аўтобус у Бельск, цяпер жа яго няма нават у гандлёвы ў Бельску чацвер. Разлічваю на пасадку ў аўтобус толькі ў Петкаве, якое ўжо ў былым Лапскім павеце...

Паколькі тупаю па згаданай Вышкаўскай гміне, слоў пару з яе партала: „Na przełomie XIV i XV wieku Wielkie Księstwo Litewskie zawarło sojusz z Królestwem Polskim i Księstwem Mazowieckim. W tym czasie Podlasie należało jeszcze do Litwy, ale obszar ten był słabo zaludniony, istniało tu niewiele wsi książęcych zamieszkałych przez białoruskich chłopów wyznania prawosławnego. Wszystkie grunty należały do księcia litewskiego, który chciał je zaludnić. W pierwszej połowie XV wieku z Mazowsza i Królestwa Polskiego, na zaproszenie księcia, przybyło tu liczne grono rycerzy, którzy otrzymywali hojne nadania ziemskie na Podlasiu. W tamtych czasach powstała większość miejscowości rycerskich w tych stronach. Przy prawie niezmienionych nazwach istnieją do dziś. Dziś trudno uwierzyć, ale prawie wszystkie miejscowości w gminie Wyszki mają po 600 lat, w wielu mieszkają potomkowie rycerzy, którzy otrzymali tu ziemię jeszcze w XV wieku”. А патомкі рыцараў гэта ж шляхта, не толькі ў значэнні грамадскага саслоўя.

Першай вёскай па маршруце з'яўляюцца Самулкі, распалажаныя над самою Нарвай. Гмінны партал паведамляе, што мясцовасць гэтая ўпершыню згадваецца ў XVIII стагоддзі пад назвай Смулькі; не адважваюся здагадвацца, з чаго гэты тапонім узяўся. А айцец Рыгор і матушка Антаніна Сосны пісалі так: „Znany archeolog Kamiński tak pisze o Surażu: ... gród suraski został zbudowany przez któregoś z książąt ruskich pod koniec XI w. jako przedmoście Rusi na lewym brzegu południowego biegu Narwi. Władcy ruscy, a później litewscy, aby umocnić swe panowanie na tych ziemiach, osadzali pod grodami i na szlakach głównych dróg i rzek pewną ilość wsi bojarów, zobowiązanych do służby wojennej i zamkowej. Powstały także wsie chłopskie, jak Samułki Małe — dawna nazwa Siółko (należące do probostwa bielskiego)...”. А гмінны партал сваё: паведамляе, што крыху больш за сто гадоў таму мясцовасць Самулкі быццам раз'ядноўваецца, бо згадваюцца ўжо дзве вёскі: адна „вялікая”, а другая „малая”. У нядаўнюю „атэістычную” эпоху ў Самулках разгарнулася сакральнае будаўніцтва: у 1952 годзе была кансекравана капліца, знесеная сорак гадоў пазней. А да таго часу, у 1984 годзе была здадзена ў карыстанне чарговая... Гмінны партал: „W 1921 roku w tej wsi notowano (Samułki Wielkie) 31 domów i 175 mieszkańców, w tym 1 prawosławny i 6 Żydów”. Гмінны партал нічога не згадвае пра больш сучасную дэмаграфію вёскі, затое пра тую дэмаграфію красамоўна сведчыць абрастаючы маладымі соснамі будынак з пазбаўленымі ўсялякай сталяркі аконнымі і дзвярнымі праёмамі — будынак тыповы для школьнага будаўніцтва...

Ад Страблі ў Самулкі вяла лясная асфальтоўка, але далей, у напрамку Філіпаў — звычайная жвіроўка. Ужо здалёк паказваецца вежа тамашняй капліцы. Калі я вучыўся рэлігіі ў пачатковай школе, тадышні ляўкоўскі бацюшка Рафаіл Чыстоўскі навучаў, што храмы маюць кшталт каўчэга ці карабля, што гэты кшталт сімвалізуе бяспечнае плаванне па жыццёвым моры. Капліца ў Філіпах здалёк нагадвае яхту з вялікім ветразем. Партал Тапчэўскай парафіі паведамляе, што ў Філіпах была калісь капліца, якая была знесена пасля Студзеньскага паўстання. Цяперашняя капліца пабудавана ў 1970-х гадах і яна, як каўчэг на Арараце, стаіць на ўзгорку пасярод вёскі. У гэтым мадэрным храме і мадэрныя крыжы: у іх гарызантальныя канцы несіметрычныя; гэта мне крыху нагадвае праваслаўную сімволіку, дзе стораны крыжа таксама несіметрычныя... Можа гэта такая экуменія з аглядкай на мінулае; гмінны партал: „W 1921 roku była to już jedna z największych wsi w gminie Topczewo. Liczyła w 1921 roku 64 domy i 318 mieszkańców, w tym 2 prawosławnych, jednak wszyscy podali narodowość polską”.



Капліца ў Самулках



Капліца ў Данілове

Зноў пакарыстаюся красамоўным гмінным парталам: „Wsie drobnoszlacheckie zawsze cechowały się rozrzuconym budownictwem. W ten sposób starano odróżniać się od chłopów, którzy mieszkali w zwartym budownictwie. Nowy dwór z dala od głównej siedziby dawał namiastkę „pańskości”. Wokół pierwszego osadnika — Filipa powstały zabudowania jego potomków i nowe osiedle zwano już Filipami. Właśnie pod taką nazwą występuje w 1528 roku. W XVI wieku nazwę wsi zapisywano jako Filipi Falki, Falki Phipii, Phalki Philipi”.

У канцы вёскі стаіць стары драўляны будынак, які напэўна не быў жылым домам. Гэта, як і ў іншых вёсках, будынак былой школы. Ад Філіпаў у Фалькі брукаванка. Гмінны партал: „Miejscowość Falki ma jedną z najlepiej udokumentowanych historii. Wioska powstała w pierwszych latach XV wieku, założyli ją rycerze pochodzący z ziemi łęczyckiej pieczętujący się herbem Godziemba. Pochodzili ze wsi Wysokie. To właśnie dla tych rycerzy w 1424 roku ich krewni z ziemi łęczyckiej wystawili specjalny dokument potwierdzający ich stan rycerski. Dokument był adresowany do wielkiego księcia Witolda i w 1569 roku został zapisany (oblatowany) w grodzie suraskim przez potomków wyżej wymienionych. Dzięki temu zachował się do naszych czasów i stanowi najstarszy dokument dotyczący osadnictwa w tej okolicy. W tym dokumencie wymienia się miejscowość Falki”.

Вельмі добра, што захаваўся такі дакумент. Толькі вось нічога тут не згадваецца з чаго назва менавіта Фалькі... Я паспрабую па-свойму дакапацца да крыніц гэтага тапоніма. І займуся гэтай назвай з першай яе літары... Літара „ф” мае даволі складаную агульную гісторыю. У нашы славянскія мовы прывандравала яна верагодна з Блізкага Усходу і выступае яна толькі ў словах замежнага паходжання — з грэчаскай, лацінскай або нямецкай моў. У „гражданцы” яна то з'яўлялася, то хавалася, гэтак жа як і ў лаціне, дзе прымала выгляд „ph”. Мне па галаве ходзіць слова „хваля”, якое па-польску пішацца „fala”. І так падазраваю, што і ў разгляданым тапоніме такая ж ракіроўка, што з прыбыццём рыцараў іх мясцовасць аўтахтоннае насельніцтва назвала Хвалькамі. Бо ж навапасяленцы не былі абы-кім — яны былі патомкамі рыцараў, шляхтай. А пра шляхцічаў Вацлаў Свянткоўскі пісаў так: „Za wszelką cenę musi mieć wspanialszą zagrodę, dworek, bryczkę najtyczankę, szarą sukmanę od której zwie się także szlachcicem szaraczkowym, kurtkę lub surdut z samodziału w kratkę, buty z podkówkami, żona i córka rękawiczki, kapelusz, parasolkę, salopę, kołnierz futrzany. Na jarmark i do kościoła idzie najczęściej pieszo i boso, obuwie wkłada pod murami świątyni”. Ці ж не назваць такіх хвалькамі?.. Гмінны партал: „W 1921 roku liczyły (Falki Stare) 43 domy i 253 mieszkańców, wśród nich 11 prawosławnych”.

Чарговая мясцовасць на маім маршруце гэта Гадзембы. Гэтая назва ўжо была раней, гэта шляхецкі герб. Зыгмунт Глогер: „Godziemba, herb polski stary, przedstawiający zieloną sosnę o trzech wiechach i pięciu korzonkach w polu żółtem. Nadany miał być już nie wiadomo przez którego z panujących doby piastowskiej rycerzowi, który pozbawiony konia i oręża na pobojowisku pokonał nacierającego jeźdźca wyrwaną z ziemi młodą sosną...”. Гэтае апісанне яшчэ больш мацуе маё перакананне, што калі новапасяленцы сталі апавядаць пра подзвіг свайго продка, то хіба мужыцкія аўтахтоны не маглі назваць іх інакш як толькі хвалькамі... Гмінны партал пра вёску: „Spis powszechny z 1921 roku nazywa ją Falki Godziemby lub Godziemby, liczyła w tym czasie 29 domów i 171 mieszkańców, wszyscy podali narodowość polską i wiarę katolicką”.

За Гадзембамі яшчэ адна вёска — Асоўка. Назва вёскі не супадае з ранейшымі, да яе не чапляецца назва Фалькі, яна таго ж вываду, што і Цісоўка, Ялоўка, Ясянёўка ці Бярозаўка. І падказвае, з якімі дрэвамі змагаліся яе заснавальнікі, высякаючы месца ў паўсюдных тады лясах. Гмінны партал падае, што мясцовасць упершыню згадваецца ў 1664 годзе, што не была яна вёскай шляхецкай. Дарэчы, гэта даволі рэгулярная вуліцоўка, калі пра забудову ранейшых, шляхецкіх вёсак гэтага не ўдаецца сказаць. Але ва ўсіх іх драўляных хатах няма падшчытнікаў, якія паўсюдныя ў распалажаных далей на ўсход нашых мужыцкіх вёсках. У Асоўцы яшчэ адна асаблівасць — велічны дуб на канцы вёскі; партал: „Dąb szypułkowy o obwodzie pnia 580 cm i wysokości 25 m rosnący na terenie miejscowości Osówka”.

Апрача гэтага дуба на тэрыторыі Вышкаўскай гміны яшчэ тры валуны — помнікі прыроды: два каля Гадзембаў (11,0 і 11,6 м у абхваце) ды ў Фальках (7,5 м у абхваце). І ва ўсіх вёсках пах вялікатаварных гаспадарак.

Іду ў напрамку Петкава ў алёсавым антуражы. Гэты лес, у міжрэччы Нарвы і Лізы, напоўнены цішынёй. У палове лютага нават усюдыісныя птушкі не падаюць тут свайго голасу. Хто ведае, можа дзеецца так таму, што не відаць там чалавечага ўмяшальніцтва і птушыныя эколагі не ўзнімаюць лямaнту ад яго небяспечнай прысутнасці.

Петкава распалажана над ракою Лізай, якая калісь была межавой між Каралеўствам Польскім і Расійскай Імперыяй. На рэчцы цяпер там невялікае вадасховішча. Калісь быў там маёнтак, гэтак жа як і ў згаданай раней Страблі. Партал Пасвентніцкай гміны: „Już w końcu lat 20-tych Pietkowo posiadało elektryczność. Prąd wytwarzany był przez silnik spalinowy i gromadzony w akumulatorach. Dwór przez całą dobę posiadał oświetlenie, a zakłady i instytucje po kilka godzin dziennie. W tym samym czasie były już instalowane telefony. Drugie oblicze pietkowskiego majątku to przerażająca bieda wielu jego mieszkańców. Co najdziwniejsze niedostatek dotykał ludzi znajdujących zatrudnienie przy obsłudze dworu. Wielodzietne rodziny zamieszkujące w tzw. czworakach, w warunkach uwłaczających ludzkiej godności to częsty obraz wspomnień najstarszych mieszkańców Pietkowa, Turka i Gabrysina”. Так было калісь.



Капліца ў Філіпах

Петкава знаходзіцца на шляху паміж Браньскам і Суражам. На гэтым жа шляху распалажана і Данілова. Калі б у апошнюю мясцовасць быў у свой час завітаў наш Мікола Гайдук, ён напэўна згадаў бы, што назва вёскі пайшла ад каранаванага ў Драгічыне караля Данілы Раманавіча, які тудою хадзіў на яцвягаў; Данілова прыналежала калісь Суражу. Партал Лапскай гміны: „Wiemy, że gród w Surażu powstał w okresie XI-XIII w. i był to gród ruski. Obszar wsi Daniłowo też zapewne należał do Rusi”. А цяпер у Данілове і „першая Польшча”, і „другая Польшча”, і „другая Японія” — будынкі з гэтых розных эпох. І паўсюдны пах вялікатаварных гадавальняў.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Баль селяніна ў Міхалове

У Міхалове стала ўжо традыцыяй, што ў мясцовым «Заездзе Гаспода» аграрнікі сустракаюцца на Балі селяніна. У апошнюю суботу карнавалу мерапрыемства сабрала разам людзей звязаных блізка з сельскай гаспадаркай і аграфірмамі (сёння яны былі спонсарамі) — з Міхалоўскай і суседніх гмін — Гарадоцкай, Заблудаўскай, Нарваўскай і Нараўчанскай. Баль арганізуецца трэці раз запар сялянамі Іалантай і Янам Монахамі з Кабылянкі ды Аннай і Юзікам Байкоўскімі з Казімярова. Падчас першага выпуску балю ў 2014 г. музыку да танца іграў дыджэй Казанова, а гуляла 114 асоб. У 2015 г. іграў сямейны ансамбль «Сакрэт» пад кіраўніцтвам Славіка Лукшы, і зайграў ён таксама 6 лютага 2016 г. для 125 чалавек, а тры афіцыянткі дбалі аб усіх і, апрача халодных закусак, некалькі раз даносілі гарачыя стравы. У кожны выпуск імпрэзы дыджэя і калектыў спансаравала фірма «Фармпаш» з Макаўкі.

Пара, якая першая выйшла на паркет, гэта Малгажата і Кшыштаф Куклінскія з Міхалова, як і пара, якой партнёр першы падняў сваю партнёрку на плячо, а і ўдзельніца балю з залёнымі вачыма, што з'явілася першая — усе атрымалі абанемент на гадзінны роль-масаж у Салоне красы Наталлі Шыманскай у Міхалове. Конкурсам і падарункам паміж танцамі не было канца. І так як 6 лютага былі імяніны Дароты, дык тры Дароты, якія з'явіліся першымі, атрымалі тры абанементы на стрыжку валос у цырульніцкім салоне Бэаты Магнушэўскай у Міхалове. Адзіны запрошаны госць балю бургамістр Міхалова Уладзімір Кананчук з жонкай асаладзіў вечар аграмадным смачным тортам, якога хапіла ўсім удзельнікам балю. Куды ні глянь — усюды знаёмыя сяляне. Бачу Юрку з Іванкова з жонкай (касіў я ў яго збожжа камбайнам), а напроціў мяне — хлопец, які памагаў мне пры кукурузе, а далей — хлопец з Біндзюгі... Гулялі!

Наступны конкурс-віктарына на тэму сельскай гаспадаркі, дзе трэба было выбраць правільны адказ з чатырох падказак, а ў наступным — шэсць танцуючых мусіла дабегчы да пяці крэслаў, і трэба было прынесці розныя прадметы з залы. Дзяўчаты, якія выйгралі, атрымалі па адной пасяўной адзінцы кукурузы коштам 350 зл. ад фірмы «Эльмар про КВС». Далей пары танцавалі з фігурамі. Пары, якія выйгралі, атрымалі цацачны трактар і 2 літры машыннага алею для трактара, а спонсарам была фірма «Агро Рольнік» са Снядова. У наступным конкурсе трэба было ў кошыку распазнаць дотыкам які гэта прадмет, і тры асобы ўгадалі ды атрымалі па паўтарачцы добрага алкаголю — спонсар не жадаў выявіцца. Іншыя спонсары ўручалі падарункавыя талоны і абанементы на роль-масаж. Дзве пары ў той дзень святкавалі гадавіну шлюбу — Іаланта і Ян Монахі ды Малгажата і Владак Кунец — яны атрымалі віншаванні ад гурта і ўсіх удзельнікаў балю. Вялікім здзіўленнем для некаторых удзельнікаў было выяўленне ансамблем таго, што я, Аляксандр Анхім з Сушчы, стаў тутэйшым «селебрыцы» — прынялі мяне ў трэці выпуск тэлепраграмы «**Rolnik szuka żony**». Некаторыя падыходзілі да Славіка Лукшы і пыталіся, ці гэта не жарт тое, што ён абвясціў. Вядома, праўда. Сяляне віншавалі мяне з адвагай і дэкларавалі падтрымку і нават рабілі здымкі са свойскім «селебрыцы». Адначасова падмовіліся да спонсараў, заўважаючы, што гэта знакамітая рэклама для гміны і Падляшша, што можа быць падхопленае і ў іншых медыях.


Фота Іаанны ДАМБРОЎСКАЙ

■ Аляксандр Анхім першы злева – «свойскі селебрыцы»

Паміж удзельнікамі кінулі жараб'ёўку і разыгралі 20 літраў машыннага масла і адну фольгу ў 70 см для абвівання сіласа (спонсар «Агро Рольнік» са Снядова), а з фірмы «Адлер Беласток» разыгралі торбы, рабочае і ахоўнае адзенне, гаджэты, шапкі, нагавіцы, блюзы, кашулі і сродкі аховы раслін — па 20 літраў «Хвастоксу», які можна ўзяць у гаспадарцы Яна Монаха, а з кабінета Бэаты Магнушэўскай — чатыры абанементы на стрыжку валос і адзін на салярый. А што — селянін таксама не супраць прыгожа выглядаць!

Баль адбываўся ў мілай сямейнай атмасферы, што было відаць па радасці ўдзельнікаў. Селянін з Тапалян Тадэвуш Люты прыбыў з сям'ёй у восем асоб! Сяляне былі такія задаволеныя з іграння гурта «Сакрэт», што спевакі працягнулі выступленне на адну гадзіну даўжэй і забава кончылася аж у 5 гадзін раніцы. Я даведаўся ад арганізатараў, што пару сялян з Гарадоцкай гміны шкадавалі таго, што не прыехалі на наш баль, бо ў гарадоцкай школе адбывалася «ёлачка». Прасілі, каб на другі раз такія мерапрыемствы зверыць па часе, каб не адбываліся ў адзін дзень, як зрабілі арганізатары балю з Ялоўкі, які правілі раней. Селянін з Гарадоцкай гміны Міраслаў Вільдовіч з жонкай Даротай сказалі мне, што гуляюць вельмі добра, шкада толькі, што ўсё ж надта каротка.

Трэба адзначыць, што ў даўнія часы каралёў і прарокаў выбіралі з ліку пастухоў. Сёння гэта сяляне, і хаця яны лічацца невысока ў цяперашнім грамадстве, то яны ў Бога важныя — кормяць людства ды выконваюць запаведзі, апякуюцца звярамі і дбаюць аб зямлю ды робяць гэта з радасцю і могуць гэтым ганарыцца!

**Аляксандр АНХІМ**




Сёлета спаўняецца роўна 60 гадоў з дня смерці аднаго з найбольш вядомых беларускіх літаратараў XX стагоддзя Якуба Коласа. Класік і заснавальнік беларускай літаратуры пражыў 74 гады, якія былі цалкам прысвечаны адукацыі і культуры нашага народа. Сёння без імя Якуба Коласа, якое насамрэч з'яўляецца псеўданімам Канстанціна Міцкевіча, цяжка ўявіць беларускую літаратуру. Таму літаратар варты таго, каб аб ім памяталі ўдзячныя нашчадкі.

Памяць дапамагаюць падтрымліваць і сайты ў інтэрнэце, якія прысвечаны Якубу Коласу. Пра некаторыя з іх "Ніва" пісала раней, але пра сайт, які носіць назву з імя вядомага пісьменніка, на старонках газеты яшчэ мы не пісалі.

Калі цікавы карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас **http://yakubkolas.ru**, то перад яго вачыма адкрыецца выяўленне, незвычайнае па сваёй каляровай гаме. У цэнтры размешчана выява аркуша нібыта старога сшытка, які ажно пакарычнявеў ад даўнасці. Паабапал яго — чорныя палі, якія ўзмацняюць уяўленне аб старадаўнасці.

„Вітаем Вас на сайце клясыка беларускай літаратуры, паэта, драматурга і публіцыста Якуба Коласа (Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча)! Якуб Колас — клясык беларускае літаратуры, грамадзкі дзеяч, перакладчык, пэдагог, адзін з заснавальнікаў сучаснае беларускае літаратуры й беларускае літаратурнае мовы. На гэтым сайце Вы можаце знайсці біяграфію Якуба Коласа, пазнаёміцца з яго творамі, зазірнуць у фотагалерэю, а таксама знайсці шмат іншай карыснай інфармацыі", — распавядаюць стваральнікі сайта, якія падкрэсліваюць, што інтэрнэт-бачына з'явілася ў межах так званага Нацыянальнага паэтычнага партала, пра які „Ніва" пісала ў № 18 ад 2 мая 2010 года.

Галоўная старонка сайта падзелена на дзве часткі. У большай, што месціцца справа, акрамя яго прэзентацыі, знаходзіцца адзін з вершаў Якуба Коласа. А ў меншай, левай, — пералік выйсцяў на іншыя рубрыкі. Рубрык там шмат. Яны падзеленыя па розных крытэрыях, сярод якіх гады творчасці, тэматыка твораў, жанры.

Вельмі падрабязны расповед пра жыццё і дзейнасць Якуба Коласа мы знойдзем у рубрыцы „Жыццяпіс", які стаіць самым першым. Праўда, нягледзячы на падрабязнасць біяграфічных звестак, пабачыць інфармацыю пра апошні год жыцця літаратара не ўдасца — стваральнікі сайта чамусьці не ўзгадваюць пра яго нічога.

Для літаратуразнаўцаў будзе карысная рубрыка „Бібліяграфія", дзе пералічаны назвы зборнікаў твораў Коласа, найменні асобных твораў з указаннем гадоў публікацыі. Не лішнім для тых жа літаратуразнаўцаў і даследчыкаў творчасці паэта і празаіка будзе наведванне рубрык „Словы пра Коласа" і „Рэцэнзіі і аналіз". У першай пра літаратара ўзнёслыя словы кажуць яго калегі, а ў другой месціцца літаратурная крытыка творчасці Коласа і некаторых яго паэм. Праўда, чамусьці ўладальнікі сайта не парупіліся пазначыць імёны і прозвішчаў тых, чые тэксты яны надрукавалі.

Варта адзначыць, што сайт мае зваротную сувязь з наведвальнікамі, і некаторыя з іх ёю карыстаюцца, хоць і не надта часта, каб пакінуць свой водгук як уласна на сайт, так і на творчасць Якуба Коласа. „Мне падабаюцца творы, якія напісаў Якуб Колас. Але не ўсе чытаюць іх. Многім падабаюцца вершы, якія напісаў ён. Мы памятаем іх. І вучым іх, каб яны засталіся ў памяці і ў нашых сэрцах. Проста магу сказаць дзякуй", — кажа адзін з наведвальнікаў сайта.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара

### Беларускі музыказнаўца італьянскага паходжання



# 110 гадоў з дня нараджэння Паўла Карузы

Беларускі фальклярыст, этнамузыколаг, кампазітар, грамадска-палітычны дзеяч Павал Каруза нарадзіўся 25 лютага 1906 г. у вёсцы з мілагучнай назвай Ваўкалатка ў Дзісенскім павеце (гэта непадалёк сённяшняга раённага цэнтра Глыбокае). Незвычайнае для нашай прасторы італьянскае прозвішча тлумачыцца тым, што паводле некаторых звестак род Карузаў перасяліўся ў Беларусь менавіта з Апенінаў яшчэ ў XVII стагоддзі. Дзейнасць беларускага Карузы была таксама звязана з музыкай. Яго лёс склаўся намнога трагічней, чым жыццё знакамітага італьянскага спевака Энрыка Карузы. Аднак пражыў наш Каруза намнога больш, чым было адмерана славутаму замежнаму тэнару. Нарадзіўся Павал у сям'і сялян-земляробаў. Сям'я Карузаў яшчэ з XIX стагоддзя была параднёная з сям'ёй грамадска-палітычных дзеячаў Душэўскіх з Глыбокага.

У 1920 гг. Павал Каруза актыўна ўлучыўся ў беларускі рух. У 1924 г. скончыў школу ў Браславе, у 1928 г. — Віленскую кансерваторыю па класе тэорыі і кампазіцыі. У 1924-1926 гг. — вольны слухач Віленскага ўніверсітэта. З 1925 г. — удзельнік грамадска-палітычнага і культурнага жыцця ў Заходняй Беларусі. У 1927 г. старшыня ЦК Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі (БХД) і галоўны рэдактар перыядычнага органа БХД газеты «**Biełaruskaja Krynica**». Як рэдактар газеты неаднаразова прыцягваўся польскай адміністрацыяй да судовай адказнасці.

Вялікі ўплыў на Карузу зрабіў збіральнік і папулярызатар беларускага музычнага фальклору Антон Грыневіч, які адраджаў і замацоўваў нацыянальны і духоўны набыткі простых людзей. Каруза таксама пачаў збіраць беларускі фальклор, апрацоўкі якога плённа выкарыстоўваў у выкананні як кіраўнік хору Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры.

У 1928 г. ад БХД і Беларускага сялянскага саюза Каруза абраны выбаршчыкамі Свянцянскага павета ў сейм Польшчы. Пасля разгону сейма Юзафам Пілсудскім летам 1930 г. застаўся без працы і заняткаў. У 1934 г. праз абяцанні надрукаваць яго аўтарскія творы і фальклорныя зборы ў Савецкім Саюзе падманным шляхам вывезены праз Гдыню ў Мінск. Там грамадскага дзеяча арыштаваў НКВД, яго засудзілі і выслалі ў канцлагер на Салавецкія астравы. Вярнуўся ў Беларусь толькі ў 1947 г. пасля 13-гадовага зняволення. Працаваў як харавы кіраўнік і кампазітар у Дзяржаўным ансамблі польскае песні і танца Літоўскае ССР. Супрацоўнічаў з фальклярыстамі АН БССР, друкаваўся ў часопісе „Мастацтва Беларусі", газеце „Літаратура і мастацтва". У 1947-1948 гг. працаваў у Доме творчасці ў Маладзечне. Але сталінская антычалавечая сістэма не магла пакінуць яго на волі. У 1949 г. Павал Каруза паўторна арыштаваны і высланы ў Нарыльск. Вызвалены толькі ў 1955 г., рэабілітаваны ў 1957 г. Вярнуўся ў Вільню, дзе жыў да канца жыцця. Браў актыўны ўдзел у адраджэнні беларускага руху на Віленшчыне. Пакінуў пасля сябе значную творчую працу. Падрыхтаваў да выдання музычныя запісы беларускага фальклору Антона Грыневіча. Напісаў «Камерную сімфонію», пабудаваную на беларускім меласе, песні на тэксты Янкі Купалы, Якуба Коласа, Ніла Гілевіча, Ларысы Геніюш, Максіма Багдановіча і іншых беларускіх паэтаў. Незадоўга да смерці фальклярыст прыслаў на суд кампазітару Анатолю Багатырову сваю камерную сімфонію.

Памёр Павал Каруза 20 лютага 1988 г. у Вільні.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Час на добрую чыгунку

Цэнтр ураўнаважанага транспарту (ЦУТ) у рамках праекта «Kolej na dobrą Kolej» распрацаваў план паляпшэння чыгуначных перавозаў на Падляшшы. Прадбачвае ён павелічэнне ліку рэгіянальных цягнікоў на 90,5% пры росце самаўрадавай датацыі ўсяго на 8% (1,5 мільёна зл.). Як гэта магчыма?

— Нашы аналізы сцвярджаюць магчымасць значнага павелічэння эфектыўнасці перавозаў, — канстатуе Станіслаў Бега з ЦУТ. — Зараз цягнікі ў час 12-гадзіннай змены выконваюць 2-3 курсы, а большасць часу стаяць. Нявыкарыстаная таксама абслуга. Наша прапанова гэта паперамменны рух з раніцы да вечара праз цэлы дзень. Зважыўшы на гэта, што кошт платы як і ўтрымання чыгуначнага саставу забяспечаны, няшмат трэба дакінуць, каб увесці ў ход дадатковае курсіраванне цягнікоў. Гэты кошт поўнасцю пакрыюць касавыя паступленні ад новых пасажыраў.

А гэтыя з'явяцца пасля павелічэння колькасці курсаў. Зараз, між іншым, дзякуючы прамоцыі «Спалучэнне ў добрай цане» на лініі Беласток — Бельск-Падляшскі цэны чыгуначных білетаў амаль раўняюцца з аўтобуснымі, прытым прапануюцца ільготныя білеты для школьнай моладзі і студэнтаў. Час падарожжа таксама не горшы — з Бельска-Падляшскага ў Беласток час праезду на цягніку і на аўтобусе амаль аднолькавы, а на адрэзку ў Чаромху скарачаецца на больш чым 20 мінут. Варта адзначыць, што ў бліжэйшым часе на згаданых лініях, дзякуючы мадэрнізацыйным работам, час праезду значна паправіцца. Адзінай заганай у гэтай справе з'яўляецца частотнасць руху цягнікоў.

Адной з ліній, якая найбольш пакарысталася б змяненнямі, была б лінія Беласток — Бельск — Чаромха, дзе лік курсаў пабольшаў бы ўтрая.

— Гэта нейкае недаразуменне, каб на лініі, дзе знаходзяцца так важныя населеныя пункты, курсіравалі адно тры пасажырскія цягнікі ў дзень, — разважае Кшыштаф Рытэль, старшыня ЦУТ. — У Чэхіі ці на Венгрыі на падобных маршрутах цягнікі курсіруюць прынамсі што гадзіну. Трэба таксама памятаць аб Гайнаўцы і турыстычным руху ў напрамку Белавежскай пушчы. План ЦУТ прадугледжвае прыбаўку курсаў да так важнага горада з 4 да 5,5 пар, прытым непасрэднае спалучэнне з Гайнаўкі ў Беласток. Падарожжа цягніком у тым выпадку не складзе, што праўда, канкурэнцыі для аўтобуснага транспарту (час язды падоўжыцца на 30-40 мінут), але забяспечыць абслугу маршруту Чаромха — Гайнаўка, Бельск-Падляшскі — Чаромха і... даезд з Польшчы праз Беласток у Белавежскую пушчу шматлікім турыстам на працягу цэлага года, што зараз з'яўляецца немагчымым.

Зараз з Чаромхі ад'язджаюць два цягнікі: у 5:44 і 15:26. План ЦУТ прадугледжвае 6 пасажырскіх цягнікоў, якія ад'язджалі б: у 5:43 (у Беластоку 7:17), 7:58 (9:32), 9:48 (11:22),13:45 (15:19), 15:09 (16:43) і 18:28 (20:01). У зваротным напрамку Беласток — Чаромха ад'езды: 7:37, 10:41, 13:24, 15:28, 16:45 і 20:20.

Пад такім праектам падпісваюся абедзвюма рукамі. А і лакальная грамадскасць дае такой ініцыятыве станоўчую ацэнку. Усё будзе залежаць ад ходу перагавораў Цэнтра ўраўнаважанага транспарту з Маршалкоўскай управай, якія зараз вядуцца. Для гэтай мэты ЦУТ апрацавала петыцыю да ваяводскага самаўрада і хадайнічае за подпісы мясцовага грамадства. Ідэя вартая падтрымкі. Час на добрую чыгунку на Падляшшы!

**Уладзімір СІДАРУК**

PS. У апошнім дзесяцігоддзі ў Падляшскім ваяводстве адмянілі больш за палову чыгуначных спалучэнняў — гэта найбольшы рэгрэс у маштабе краіны.

## Лукашэнка адзначыў некаторых беларусаў Падляшша

Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў ордэнам Францыска Скарыны трох прадстаўнікоў беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Гэта старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Ян Сычэўскі і сакратар ГП гэтай арганізацыі Валянціна Ласкевіч, а таксама мастацкі кіраўнік ансамбля беларускай песні «Прымакі» Юры Астапчук. Як гаворыцца ў прэзідэнцкім указе, гэтыя людзі ўганараваныя за значны ўнёсак у папулярызацыю беларускай спадчыны за мяжой, і ўмацаванне добрых стасункаў паміж Польшчай і Беларуссю. Юрка Астапчук даведаўся пра ўзнагароду ад нашага Радыё:

— Гэта сведчыць пра тое, што праца, якую робіць чалавек, камусьці патрэбная. Мы ж неаднойчы ездзілі ў Беларусь, шмат разоў выступалі з канцэртамі і заўсёды прыязджаем з Беларусі задаволеныя канцэртамі. Нас вельмі добра прымалі і ўлады, і мясцовыя ўлады таксама добра нас прымалі. І думаю таму гэта стала заўважным.

Сёлета ў канцы ліпеня папулярны на Беласточчыне гурт «Прымакі» будзе адзначаць 20-годдзе свайго існавання. Спадар Юрка паведаміў, што да юбілею гурт рыхтуе новыя запісы.

**Кастусь БАНДАРУК, Беларускае Радыё Рацыя**

## Кватэры для маладых

Сёлета ў лістападзе пры вуліцы Камісіі нацыянальнай адукацыі на пасёлку Бацечкі ў Беластоку здадуць у карыстанне жыллёвы блок і ў ім 69 кватэр перш-наперш для маладых сем'яў. Будуе яго Камунальнае таварыства грамадскага будаўніцтва (КТГБ). У будынку будуць 2- і 3-пакаёвыя кватэры ды меншыя і большыя па плошчы — на 38 і на 65 квадратных метраў.

Гэта не канец запланаваных КТГБ інвестыцый на беластоцкіх Бацечках. Тут у 2018-2019 гадах паставяць яшчэ два меншыя блокі: адзін жыллёвы будынак на 24 кватэры і восем гаражоў ды другі на 38 кватэр і гэтаксама з васьмю гаражамі.

**(яц)**



**ЗАПРАШЭННЕ**

Аб'яднанне АБ-БА сардэчна запрашае на Дыскусійны клуб АБ-Бы

**“Пагаворым пра трагічны 1946...”**

і сустрэчу з журналісткай Радыё Рацыя
**Валянцінай ЛАЕЎСКАЙ**
26.02.2016 (пятніца) 17.00

*Склеп з культурай Аб'яднання АБ-БА*
*вул.Чэнстахоўская 6а, Беласток.*

## 29.02 — 05.03

**(22.03. — 20.04.)** Да канца лютага вялікая папулярнасць. «Добрае надвор'е» дома. Будзе шчыра хацецца вярнуцца пасля працоўнага дня ў свае пенаты, дзе будуць з нецярпеннем чакаць родныя. Калі жывеш у адзіноце, то самы час адведаць бацькоў ці іншых блізкіх людзей. Усе будуць шчыра табе рады, сустракаць будуць хлебам-соллю і частаваць як самага высокага госця.

**(21.04. — 21.05.)** Пакуль устрымайся ад паездак за межы горада. Калі ж пашлюць цябе ў камандзіроўку па службе, знайдзі прычыну, каб не ехаць або перанесці паездку на будучыню. Любыя падарожжы ў сакавіку могуць абярнуцца табе стратамі матэрыяльных рэчаў. Могуць цябе падмануць, хітрасцю выманіць грошы, альбо сам можаш па безуважлівасці нешта страціць.

**(22.05. — 22.06.)** Прыемныя ўзрушэнні. Гэта могуць быць ашаламляльныя навіны ад сваякоў або блізкіх людзей, дарагія і нечаканыя падарункі, прыемныя і незвычайныя сустрэчы. Рэкамендуецца быць напагатове Блізнятам-адзіночкам, так як ёсць вялікая верагоднасць таго, што менавіта ў сакавіку вы пазнаёміцеся з чалавекам, блізкім вам па духу. Аднак ведайце, што не заўсёды людзі, прызначаныя нам лёсам, падобныя на герояў нашых мар. Калі ў марах з'яўляецца высокі блакітнавокі бландзін, гэта зусім не значыць, што з'явіцца ён табе і ў рэальным жыцці. З шатэнам сярэдняга росту таксама будзе добра.

**(23.06. — 23.07.)** Менш сядзі дома! Сакавік — самы час для вывучэння займальнага свету вакол. Абзавядзіся роварам і даследуй наваколле, наведвай выставы і кінатэатры. Вельмі ўдалымі будуць паездкі за мяжу, так што можаш смела адпраўляцца ў падарожжа. На працы рэкамендуецца ўзяць адпачынак або хаця б некалькі дзён для адпачынку. Падкрадваецца стома. Ракі-жанчыны — не бярыце грошай у доўг.

**(24.07. — 23.08.)** Наладжвай адносіны з блізкімі людзьмі. Калі вы ў мінулым пасварыліся, зрабі першым крок на сустрэчу. Адпусці ў думках усе праблемы, якія цябе турбуюць. Не забівай адмыслова сабе галаву цяжкасцямі і віртуальнай бязладзіцай. У бліжэйшы час нічога дрэннага адбывацца ў цябе не будзе, не турбуйся дарма. Надай у сакавіку трохі ўвагі свайму здароўю.

**(24.08. — 23.09.)** Варта быць больш адкрытым з навакольнымі і смела выказваць свае пачуцці. Услых хвалі людзей за добрыя ўчынкі і прынятыя рашэнні. Гэтым заахвоціш іх да яшчэ больш высокіх здзяйсненняў. Не бойся таксама выказваць свайго абурэння тым людзям, чые дзеянні здаюцца табе няправільнымі. Часам злыдні дзейнічаюць толькі таму, што іх ніхто не спыняе. Смела ўставай на абарону несправядліва пакрыўджанага. Грамадскасць падтрымае цябе, а вінаватаму будзе сорамна.

**(24.09. — 23.10.)** Самы час задумацца пра працяг роду! Сакавік вельмі спрыяльны для планавання і зачацця дзіцяці. Калі ж ты даўно працуеш над гэтым, зоркі абяцаюць табе радасныя навіны. На працы чакаюць прыемныя весткі. Магчыма, праект, над якім ты працаваў, нарэшце будзе зацверджаны, справаздачы прыняты і адобраны. Успомні пра сямейныя святы і дні нараджэння блізкіх.

**(24.10. — 22.11.)** Успомні пра блізкіх табе людзей, з якімі ты страціў сувязь. Гэта могуць быць былыя калегі, сябры, якія жывуць далёка. Зусім нялішнім будзе патэлефанаваць ім, прызначыць сустрэчу. Скарпіёны, якія займаюцца ўласнай справай, будзьце асцярожнымі! Ёсць некаторая верагоднасць таго, што спрабуе падмануць твой падначалены. Справа можа тычыцца падману з-за грошай або «зліву» інфармацыі канкурэнтам.

**(23.11. — 22.12.)** Беражыся выпадковых сувязей! У сакавіку яны могуць прывесці да вельмі непрыемных наступстваў. Могуць спрабаваць шантажаваць цябе або выкарыстоўваць супраць інфармацыю. Паглядзі іншым поглядам на сябе. Ці ўсё цябе задавальняе? Можа самы час нешта змяніць? Выправіся ў цырульню да незнаёмага майстра, змяні гардэроб ці макіяж.

**(23.12. — 20.01.)** Будзь сабой! Можа ты надзеў на сябе маску іншага чалавека. Нават калі роля прыйшлася табе па гусце, не забывай, што самае лепшая якасць — натуральнасць. Памятай, што немагчыма ўсім падабацца, а калі хтосьці незадаволены табою, гэта яго праблема.

**(21.01. — 19.02.)** 29.02. у твой кашалёк вернуцца нечаканыя грошы. Не сядзі дома! За акном дома або офіса чакае цябе выдатны свет! Апранайся цёпла і спяшайся насустрач прыгод! Будуць файныя сустрэчы з сябрамі. Не злоўжывай смачнай, але шкоднай ежай.

**(20.02. — 21.03.)** Калі ў жыцці з'явіўся любы чалавек, то пара яго прадставіць бацькам і блізкім. Не хавай шчасця, дзяліся радаснымі навінамі! Не забывай пра свае абавязкі на працы, выконвай усё добрасумленна і тэрмінова, бо будуць непрыемнасці з кіраўніцтвам. Калі ў цябе свой бізнес, то пільнуй яго, бо падначаленыя будуць ленавацца і справы не зладзяцца.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | 7 | 8 | 9 | | | | | | | |
| | | | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| | | | 27 | 28 | | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 |
| 34 | 35 | 36 | | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 | 42 | 43 |

1. перапончатакрылае насякомае з джалам = 18 _ 10 _ 20 _;
2. муж бабы = 34 _ 35 _ 36 _ 17 _;
3. калі яны малыя — малы клопат = 7 _ 8 _ 9 _ 3 _ 4 _;
4. даўнейшае верхняе мужчынскае адзенне з каляровага сукна, якое меў... пан? = 21 _ 41 _ 37 _ 39 _ 5 _;
5. „прэзідэнт” на беларускай аднарублёўцы = 27 _ 28 _ 26 _ 42 _;
6. будыйскі манах = 31 _ 16 _ 11 _ 6 _;
7. клоўн, блазен = 29 _ 30 _ 12 _ 15 _;
8. першае жытло Адама і Евы = 19 _ 2 _ 23 _;
9. частка фабрыкі = 33 _ 22 _ 1 _;
10. тонкая лёгкая тканіна ў... цюльпане = 14 _ 13 _ 38 _ 43 _;
11. круглая пасудзіна для віна = 40 _ 32 _ 24 _ 25 _.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 6 нумара**

Стома, адпачынак, тхор, агонь, меч, аполак, седала, хвіліна, траекторыя.

Рашэнне: **Хто многа пачынае, мала канчае**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00} – 18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.



# У палескай глыбінцы (33)

Імглістай раніцай адправілася я ў Марочна. У Зарэчнянскі раён. Жанчыны ў адміністрацыі гасцініцы «Дружба» глядзелі на мяне з мацярынскай заклапочанасцю.

— Навошта туды ехаць, — уздыхалі сардэчна і круцілі галоўкамі, — там жа адны камары і балота!

Хоць сяло знаходзілася яшчэ ў межах Украіны, на карце выглядала яно «тры крокі» ад Пінска. Там менавіта знаходзіліся легендарныя балоты, якія вабілі ўсякіх *калумбаў* і піянераў фатаграфіі ў пачатку XX ст. Яшчэ больш хацелася глянуць на Прыпяць, якая ў наваколлі Марочна перасякае мяжу з Беларуссю і плыве на поўнач.

Іншай і, мабыць, самай галоўнай прычынай была сустрэча са святаром Паўлам Дубянцом. Бацюшка служыў на парафіі ў сяле Марочна. Я не ведала ці адрас, які падказалі мне ў Беларусі, быў яшчэ актуальны і ці знайду чалавека. Таму трэба было завезці сябе ў Зарэчнянскі раён, накарміць мясцовых камароў і ўсё праверыць.

* * *

Першы адрэзак дарогі — гэта была шаша Р05 — ішоў паралельна да ракі Гарынь. Ён спалучаў Дубровіцу са старажытным Давыд-Гарадком, як колішні вадзяны шлях.

Гэта была асфальтаваная, гладкая шаша, амаль як у Лукашэнкі. Некаму моцна залежала, каб гандаль між Беларуссю і Украінай працвітаў, што, дарэчы, і адбывалася. Машыны з беларускімі нумарамі кацілі бесперапынна туды і назад. Мне да шчасця хапіла паглядзець на дарожныя ўказальнікі. Усюды, дзе ні глянь, відneў Столін! З кожным кіламетрам адлегласць меншала. Хацелася выйсці з машыны і ісці ў той бок. Але маршрутка з'ехала з элегантнай дарогі і пакацілася, сярод лясоў, у паўночна-заходнім напрамку. Адразу паменшылася ў два разы хуткасць. Праўда, гэта яшчэ была прыстойная язда, недзе сорак кіламетраў на гадзіну.

У сваёй наіўнасці я праз акно выглядала лясной звярыны. Дзеля гэтага заахвочвалі таблічкі з выявай цецерука. Такі малюнак прыаздабляў указальнік да сяла Скварыцэвічы. „Тут штосьці не так”, — падумала я. Раней, калі я пытала пра палескую этнаграфію, добрыя людзі кіравалі мяне якраз у Скварыцэвічы. Там захаваўся абрад куста. Рытуал у нечым напамінае нашае калядаванне, толькі замест зоркі грамада ходзіць з дзеўкай, прыадзетай у лісткі і галінкі ды разнаколерныя стужкі. Спевакі славяць гаспадароў і іх продкаў, за што іх частуюць ядой і выпіўкай. Абрад, які стаў своеасаблівым брэндам, прыпісаны да вясновага святкавання Тройцы. Зараз былі гатовы паказаць «куст» па жаданні, нават у *Піліпаўку*! Я не ведала, што думаць пра такія народныя абрады, але пахла паказухай.

І навошта той цецярук, замест прыгожай дзеўкі пераапранутай за куст?

— А да каго так едзем? — спытала мяне цётка падобная на вядзьмарку, уючаная пакетамі з раслінамі і кветкамі для пасадкі...

— Да аднаго святара, — адказала я.

— Ён з праваслаўных, — вядзьмарка заглянула ў мае думкі — ці можа з *нявеpуючых*?

Апошняе слоўца здалося знаёмым, толькі злосна перавернутым. Наколькі мясцовыя пратэстанты самі сябе называлі «веруючымі», рэлігійная канкурэнцыя зрабіла з іх нешта адваротнае. Ці гэта была палеская прыдзірлівасць, — я заходзіла ў галаву, — ці проста ўжо набліжалася *марока*...

* * *

— А што такое *марока?* — спытала я на месцы.

— Гэта туман, гэта балота, гэта камары, гэта чэрці, што зводзяць з дарогі ды ўсё такое, — пералічвае айцец Павел з інтэлігентнай усмешкай, — гэта і будзе *марока*...

Пра назву сяла Марочна існуе легенда. Калісь па дарозе, ці дакладней па бездарожжах, ехаў панок. Ехаў ён, ехаў і нікуды не мог даехаць. Паверне ў адзін бок, там балота. Паверне ў другі, там грудок і кусок пясчанага поля. Ужо здаецца ўсё добра, ёсць напрамак. Дык не. Зноў патрапляе ў тое месца. Зноў тое балота. Зноў той пясчаны грудок. Рашыў панок абласкавіць стыхію. Ён загадаў, каб у гэтым месцы збудаваць паселішча. Адтуль Марочна. Народ ахвотна пасяліўся на пясчаным грудзе сярод багатых на дзякую звярыну балот і рыбных рэк і азёраў.





Паводле пісьмовых крыніц, Марочна існавала ўжо ў 1511 годзе. У сяле стаіць таблiца і крыж у памяць слаўнага пяцісотгоддзя.

Сучасны падарожнік не мае ніякага шанцу на канфрантацыю з *марокай*.

Дзесьці за Зарэчанамі пачынаецца тракт з бітага каменю. Праўда, па ім зручней пусціць танк чым сучасны аўтамабіль. Апошнія кіламетры мы цягнуліся ў чарапашым тэмпе, дзесяць-пятнаццаць кіламетраў на гадзіну. Нашу маршрутку што і раз абміналі са свістам самаробныя машыны дзівоснай канструкцыі. Найлепш спраўляліся з бруканкай прычэпкі з маятнікам, падмацаваныя маторам ад „Мерседэса”. Надта шалёнымі здаваліся мініяцюрныя трактары з падчэпленым вазком для перавозкі людзей і жывёлы. Тыя, што сядзелі ў салоне маршруткі, не паспявалі дзівавацца вынаходлівасці тубыльцаў.

* * *

У Марочным прывітаў мяне крыж, прыаздоблены разнаколернымі стужкамі. Здалёк напамінаў асобу, прыадзетую ў дастойную сукню. Спачатку я падалася на рыначак. Самым папулярным таварам тут былі аздобныя расліны.

Марочна скрывае ў сабе ціхую дастойнасць, напамінае мястэчка. Значную частку забудовы складаюць драўляныя будынкі. Ужо сам выгляд забудовы расчуліў мяне, наклікаў аналогіі. Каб хто абудзіў мяне ноччу і спытаў, дзе я знаходжуся, мой сонны адказ прагучаў бы так: „На Піншчыне”. Большасць драўляных дамоў тут памаляваная на арэхавы або зялёна-жоўты колер. Шчыт прыаздабляе салярны знак — паганскі сімвал сонца. На кожным панадворку стаяць два або і больш стагі сена, абарогі з саломай.

Як не смешна, у карысць беларускага аналагу прамаўлялі яшчэ навінкі. Як і за мяжой, тут таксама панавала мода на бетонныя платы, памаляваныя на блакітны, смарагдавы ці ружовы колеры. У прыдамовых агародчыках красавалася мора разнаколерных кветак, усюды раслі вішні, чарэшні, парэчкі, усюды адчувалася дбайная, працавітая рука.

Здавалася, вайна і эканамічны крызіс нейкім цудам абмінуў гэты азёрналясны куточак на зямлі...

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960